# БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК




**НЯХАЙ РАСЦЕ, ЦВІЦЕ І ЎМАЦОЎВАЕЦЦА ОРДЭНАНОСНАЯ БССР, НЕАДРЫЎНАЯ ЧАСТКА І БАЯВЫ ФАРПОСТ НАШАЙ ВЯЛІКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РАДЗІМЫ!**

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

ЛІПЕНЬ 1935 год.

№ 13

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# Бальшэвіцкі друк

ЛІПЕНЬ 1935 г. № 13 (37)

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

Выходзіць 2 разы ў месяц.

*Адказны рэдактар А. ДЖЭЛЮК*

Адрас рэдакцыі і выдавецтва: МЕНСК, Савецкая, 63, тэл. 22412





# ГІСТАРЫЧНАЯ ДАТА

11 ліпеня народы Совецкай Беларусі святкуюць велізарнейшае свята—пятнаццацігоддзе вызвалення БССР ад белапалякаў і дзень уручэння нашай рэспубліцы вышэйшай узнагароды Саюзнага ўрада — **ордэна Леніна.**

У гэты светлы, радасны і шчаслівы дзень працоўныя Совецкай Беларусі першае сваё слова, першую мысль звaрачаюць к таму, хто выратаваў працоўных Беларусі ад вечнай кабалы і невуцтва, хто забяспечыў росквіт эканомікі і культуры, хто выклікаў да жыцця мільёны, — к нашай вялікай партыі Леніна—Сталіна, к вялікаму зодчаму соцыялізма, найвялікшаму генію—нашаму вялікаму **Сталіну.**

За гэтыя паўтара дзесятка гадоў працоўныя Совецкай Беларусі пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў і асабіста таварыша **Сталіна,** пры велізарнай дапамозе пролетарыяў усяго СССР і асабліва рускага пролетарыята, сваёй удар-

най самаадданай работай прарабілі такі шлях, які паставіў нашу рэспубліку ў рады перадавых ордэнаносных рэспублік і краёў вялікага Саюза Советаў.

Сіла БССР іменна заключаецца ў тым, што яна з'яўляецца неадлучнай часткай СССР, што народы Совецкай Беларусі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі верны прынцыпам пролетарскага інтэрнацыяналізма, што намі кіруе вялікая партыя Леніна—Сталіна.

БССР была, ёсць і будзе неадлучнай часткай вялікага Совецкага Саюза, баявым соцыялістычным фарпостам на рубяжы з капіталістычным Захадам.

Узнагароджанне ордэнам Леніна нашай Беларускай рэспублікі і яе кіраўнікоў—лепшага сталінца тав. **Н. Ф. Гікало** і старшыні Соўнаркома таварыша **Н. М. Галадзеда** — ёсць найярчэйшае выражэнне таго, якіх поспехаў дасягнула БССР.

Гэта лішні раз падкрэслівае, што большэвікі робяць цуды, якіх не ведала сусветная гісторыя.

Што сабой прадстаўляла дарэволюцыйная Беларусь? Праўдзіва ў свой час пісаў Янка Купала:

**Горы ды каменне,**
**Вузкія палоскі,**
**Гэта наша поле,**
**Поле нашай вёскі.**
**Курныя вакенцы,**
**Каб святла хоць трошкі,**
**Гэта нашы хаты,**
**Хаты нашай вёскі.**
**Лапці ды сярмягі,**
**Як абраз нябоскі,**
**Гэта нашы людзі,**
**Людзі нашай вёскі.**
**Карчмы ды астрогі,**
**Крыжыкі, бярозкі...**
**Гэта наша доля,**
**Доля нашай вёскі.**

Гэты жудасны малюнак доўгімі вякамі пераносіўся працоўнымі масамі Беларусі.

Краіна непраходных лясоў і балот, краіна бескультур'я і невуцтва, краіна з агромным перанасяленнем, пры наяўнасці велізарнай колькасці памешчыцкіх і кулацкіх зямель, краіна, дзе не была развіта колькі-небудзь прамысловасць, краіна, дзе вечна панаваў голад і галеча.

І над усім гэтым вісеў жахлівы, нечалавечы нацыянальны і соцыяльны ўціск. Сама нават назва «Беларусь» была выгнана царскім урадам з ужывання, як крамольная, і заменена назвай «Северо-Западный край». Беларуса царскія сатрапы не лічылі за чалавека.

Даваенная прамысловасць насіла надзвычай прымітыўны сярэдневяковы характар. Агульная колькасць занятых рабочых у саматужных і поўсаматужных майстэрнях,—а такой была ўся беларуская прамысловасць,—складала каля 20.000 чалавек. Вілкі, ухваты, бляшаныя вёдры, бандарная вытворчасць, поўсаматужныя і гарбарныя заводзікі, некалькі швэйных майстэрань—вось, прыкладна, характарыстыка прамысловасці дарэволюцыйнай Беларусі. Рабочы клас зверскі эксплаатаваўся гаспадарыкамі.

Сельская гаспадарка знаходзілася амаль што ў першабытным стане. Плуг, жалезная барана былі здабыткам толькі кулакоў. Драўляная саха і драпак з драўляных суччаў, які замяняў барану,—гэта быў масавы сельскагаспадарчы інвентар вёскі.

У адчайнай барацьбе з суровай палескай прыродай адваёўваў сабе хлеб тружанік-селянін. Паэт Некрасаў у сваёй «Железной дороге» даў яркае апісанне беларуса-тружаніка:

**«Видишь, стоит, изможден лихорадкою,**
**Высокорослый больной белорусс,**
**Губы бескровные, веки упавшие,**
**Язвы на тощих руках,**
**Вечно в воде по колена стоявшие**
**Ноги опухли, колтун в волосах».**

Аграмадныя масівы балот, непраходных лясоў, тарфяныя масівы, сапрапеліты, залежы каштоўнейшых цэментных глін, фасфарытаў, лясныя багацці —усё гэта знаходзілася пад спудам, усё гэта служыла тэмамі для ўсякіх забабонаў і містыкі. Капіталіст, памешчык, кулак скарыстоўваў усё тое, што яму давала найбольшыя прыбыткі. Ён не хацеў і не зацікаўлен быў аблягчыць працу чалавека. Наадварот, галечай, голадам і невуцтвам яны атручвалі рабочыя масы, будавалі свой дабрабыт.

Аб культуры гаварыць няма чаго. Беларуская мова самым жорсткім чы-

нам праследвалася. Ні адной школы, газеты і кнігі не выдавалася на беларускай мове. Дзесятак гімназій, епархіяльных вучылішч, некалькі духоўных семінарый, царква, касцёл, сінагога, кабак—вось і ўся «культура» царскай калоніі. І як праклятую спадчыну мінулага мы атрымалі 70 проц. пісьменнага насельніцтва.

Яшчэ не так даўно на Палессі ў Старобінскім раёне ў большасці вёсак было па аднаму граматнаму. Прыязджаючыя настаўнікі трацілі вельмі шмат энергіі на тое, каб растлумачыць, што такое граматнасць і навошта яна патрэбна.

Каля двух трэцей усіх зямельных угоддзяў належала памешчыкам. Чорная зграя баронаў Врангеляў, князёў Радзівілаў, княгінь Гогенлое і інш. гняздзілася на землях Беларусі.

Зразумела, што пры такой грабежніцкай палітыцы працоўны селянін вымушан быў прадавацца ў кабалу памешчыку для таго, каб цягнуць хоць-бы мізэрнае існаванне.

Окцябрская рэвалюцыя выгнала памешчыкаў і капіталістаў, вызваліла з-пад іх кабалы шырокія працоўныя масы, раздала зямлю сялянам, фабрыкі і заводы—рабочаму класу.

Белапольская акупацыя—гэта была адна з самых жудасных падзей у жыцці беларускага народу. Зруйнаваны імперыялістычнай вайной, наш край апынуўся пад ярмом белапольскіх акупантаў. Барвавае зарава пажарышч навісла над гарадамі і вёскамі Беларусі. Палякі палілі гарады Барысаў, Полацк, Слуцк, Менск, Бабруйск, знішчажалі цэлыя вёскі. У Барысаве было спалена палякамі 2500 дамоў і забіта 500 чалавек. У адным толькі Барысаўскім павеце белапалякі спалілі датла 20 вёсак. Ва Урэччы падпалілі кожны трэці дом. У Слуцкім павеце белапалякі спалілі 1.462 сялянскія двары і забралі ў сялян 1.820 коней, 2.716 кароў, 1.196 свіней, 2.906 авец. Гвалтам, здзекам і грабяжам не было межаў. Сотні і тысячы лепшых сыноў рабочага класа і сялянства былі зверскі замучаны ў турмах і павешаны на шыбеніцах.

І цяпер, калі гэта агалцелая зграя паноў Радзівілаў, паноў Розенбергаў і інш. злобна шыпіць аб «культурным вызваленні» беларускага народу, то за гэтымі словамі працоўныя масы чуюць новую помсту, новую расправу памешчыкаў і капіталістаў.

Прадажныя шпіёны польскага і нямецкага фашызма—беларускія нацыянал-дэмакраты прадавалі оптам і ў розніцу Беларусь і яе народ. Яны не пагарджалі ніякімі сродкамі, пачынаючы ад дзікіх налётаў, грабяжоў і пагромаў вядомага бандыта Булак - Балаховіча, які знаходзіцца зараз пад крылкам польскіх фашыстаў, і канчаючы самымі мерзкімі шпіёнскімі справамі ўнутры краіны. Для таго, каб дасягнуць сваёй мэты, яны лізалі боты і аўстрыйскаму манарху Габсбургу, і нямецкаму Гогенцолерну, і Калчаку, і авантурысту Петлюры, і белапалякам. Для іх было ўсёроўна, хто-б ні панаваў у Беларусі, толькі-б не большэвікі, якія назаўсёды вызвалілі ад ярма памешчыкаў і капіталістаў шырокія працоўныя масы.

Пятнаццаць год таму назад гераічная Чырвоная армія, ажыццяўляючы велізарнейшы стратэгічны план Леніна—Сталіна пад жалезным кіраўніцтвам слаўных чырвоных камандзіраў Варашылава і Будзённага, адкінула белапольскія банды і выгнала тых, хто хацеў аднавіць уладу капіталіста і памешчыка, хто хацеў навечна закабаліць шырокія працоўныя масы.

Партыя большэвікоў пад кіраўніцтвам найвялікшых геніяў чалавецтва Леніна—Сталіна заўсёды арганізоўвала масы на барацьбу з рускім самадзяржаўем, на барацьбу з памешчыкамі і капіталістамі, на барацьбу з белапольскімі акупантамі. Рабочы клас Беларусі, згуртаваўшыся вакол ленінскай часткі РСДРП (большэвікоў), паказаў нямала гераічных прыкладаў барацьбы з самадзяржаўем за ўстанаўленне дыктатуры пролетарыята. Лепшыя сыны рабочага класа, аб'яднаўшыся пад сцягамі Леніна—Сталіна, змагаліся за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне.

Наша партыя бадзёра і ўпэўнена вяла рабочы клас і працоўныя масы сялянства ад перамогі да перамогі.

Партыя Леніна—Сталіна рашуча выкрывала і разбівала бундаўскія, эсэраўскія, пэпээсаўскія і іншыя буржуазныя партыі, ускрывала іх здрадніцкую

сутнасць і вяла за сабой масы на штурм буржуазіі і памешчыкаў, на штурм рускага самадзяржаўя.

Октябрская соцыялістычная рэволюцыя разбіла ярмо памешчыкаў і капіталістаў, устанавіла дыктатуру пролетарыята, адкрыла небывалыя перспектывы для росквіту эканомікі і культуры ў былой царскай калоніі.

Ажыццяўляючы ленінска-сталінскую нацыянальную палітыку, рабочы клас, калгаснікі і ўсе працоўныя Совецкай Беларусі пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і асабіста таварыша Сталіна ператварылі БССР у квітнеючую ордэнаносную рэспубліку СССР.

Замест старых саматужных і поўсаматужных майстэрань створаны буйнейшыя прамысловыя гіганты, абсталяваныя паводле апошняга слова тэхнікі. Выраслі новыя галіны прамысловасці. Металапрамысловасць, запалкавая, швэйная, дрэваапрацоўчая, шкляная, цэментная, керамічная, штучнага валакна і т. д. Такія галіны прамысловасці, як металаапрацоўчая, шкляная і штучнага валакна, па свайму абсталяванню маюць не толькі ўсесаюзнае, але і еўрапейскае значэнне. Капіталаўкладанні за апошнія чатыры гады ў прамысловасці склалі звыш 885 мільёнаў рублёў. Валавая прадукцыя прамысловасці ў параўнанні з даваеннай узнялася больш чым у 10 раз, колькасць рабочага класа складае звыш 130.000 чалавек. На аснове пераабсталявання тэхнічнай базы прамысловасці арганізована вытворчасць цэлага раду новых відаў прадукцыі, як штучнае валакно, варштатабудаўніцтва, дубільныя экстракты, ізаліты, стандартныя дамы, нажавая фанера, трыкатажныя вырабы, мэбля, малочная кіслата і т. д. Зараз рад заводаў Беларусі пастаўляюць абсталяванне—варштаты на замежны рынак. Выпрабляюцца такія складаныя варштаты і машыны, як багеры, помпы Верцінгтон, варштаты сістэмы Калава, стругальныя варштаты і т. д.

Калі ў 1927 г. магутнасць электрастанцый складала 14.400 кіловат, то ў 1933 г. яна ўжо складала 70.000, а ў 1934 г.—73.000 кіловат. Колькасць электрастанцый у сельскіх мясцовасцях даведзена да 50, не гаворачы ўжо аб тым, што пабудаваны такія буйнейшыя сілавыя ўстаноўкі, як добрушская, касцюковіцкая, магілеўская і раённая электрастанцыя імя тав. Сталіна.

Магутны рост індустрыялізацыі ва ўсім Совецкім Саюзе і ў яго неадлучнай частцы Совецкай Беларусі стварыў усе ўмовы для соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Звыш 75 проц. усіх сялянскіх гаспадарак аб'яднаны ў калгасы. Трактарны парк складае звыш 4.000 трактараў. Вельмі яркія лічбы машынаўзброенасці сельскай гаспадаркі. У 1928 г. у БССР было 746 малатарань з механізаванымі рухавікамі, а ў 1934 г. іх ужо 2.000; жняярак было 712, а зараз—13.000; трыераў—173, зараз—звыш 3.000.

Значна выраслі пасеўныя плошчы. Уся пасеўная плошча царскай Беларусі ў 1916 г. складала 2.389.000 гектараў. У 1934 г. было засеяна 3.863.000 гектараў. Па асобных тэхнічных культурах пасеўныя плошчы павялічыліся на 300—400 проц.

Усё гэта стварыла такія ўмовы, што калгасы і калгаснікі БССР ідуць быстрымі крокамі па шляху ажыццяўлення лозунга правадыра нашай партыі таварыша Сталіна—ператварыць усе нашы калгасы ў большэвіцкія, а калгаснікаў ў заможных. На аснове палітычнага і арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў БССР дабілася буйнейшых поспехаў у правядзенні ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній. З года ў год мы сеем значна лепш і ў больш скарочаныя тэрміны. За апошнія некалькі год Беларусь паспяхова выконвае свае абавязацельствы перад пролетарскай дзяржавай. Расце матэрыяльны дабрабыт калгаснікаў. Павышаецца вага калгаснага працадня.

Магутны росквіт эканомікі забяспечыў росквіт і пролетарскай культуры Совецкай Беларусі. У Беларусі ёсць таржаство ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. Створана Акадэмія навук, 18 вышэйшых навучальных устаноў, 36 навукова-даследчых інстытутаў, сотні тэхнікумаў, тысячы сярэдніх школ, дзесяткі тысяч ніжэйшых і няпоўных сярэдніх школ, 7 тэатраў, кіно, радыёўстаноўкі, сотні дамоў соцкультуры. Вось далёка няпоўны пералік культурных устаноў. Быстрымі крокамі наша партыя прарабіла шлях па паляпшэнню аховы здароўя працоўных.

Калі ў даваеннай Беларусі прыходзілася на ахову здароўя на кожнага жыхара 8 кап., то зараз расходуецца штогод каля 60 рублёў. Пабудаваны першакласныя больніцы, цэлыя клінічныя гарадкі, у якіх працуюць выдатнейшыя вучоныя Совецкага Саюза.

Створана совецкая літаратура, якая па сваіх мастацкіх творах, па сваёй ідэйна-палітычнай насычанасці становіцца ў рады лепшых твораў Совецкага Саюза. Выраслі тыражы газет, якія выходзяць на мовах народаў, што насяляюць БССР. Выраслі кадры совецкіх пісьменнікаў, паэтаў, кампазітараў, драматургаў, артыстаў, інжынераў, тэхнікаў, дактароў і педагогаў.

Растуць кадры бальшэвікоў—партыйных і непартыйных—у прамысловасці і сельскай гаспадарцы. З нетраў рабочага класа і калгаснікаў вырастаюць новыя таланты, бязмежна адданыя справе партыі Леніна—Сталіна, справе нашай социялістычнай радзімы.

«Кадры вырашаюць усё»—сказаў таварыш Сталін. Гэты лозунг для нас мае выключна вялікае значэнне, бо ў ім закладзен ключ да нашых далейшых перамог.

Поспехі, атрыманыя намі па ўсіх франтах соцыялістычнага будаўніцтва, не могуць ускружыць нам галаву. Мы яшчэ павінны мацней працаваць на ўсіх франтах соцыялістычнага будаўніцтва для таго, каб выканаць тыя велізарныя задачы, якія стаяць перад намі.

Пяцімільённы народ Беларусі, які працуе на рубяжы з капіталістычным Захадам, у дзень вызвалення БССР ад белапалякаў клянецца нашай партыі, што ён будзе верны да канца справе пролетарскага інтэрнацыяналізма, што ён будзе цвёрда стаяць на варце совецкіх граніц.

Мы ўдзесяцерым яшчэ нашу рэволюцыйную пільнасць, яшчэ цясней згуртуем свае рады вакол партыі Леніна, вакол сталінскага Цэнтральнага Камітэта партыі і вялікага Сталіна для барацьбы за тaржаство соцыялізма.

Наша пагранічнае становішча абавязвае кожнага з нас працаваць так, каб ні адзін водпрыск класавага ворага не быў нявыкрытым і нявыгнаным. Мы абавязаны яшчэ большымі клопатамі і ўвагай акружыць нашу гераічную Чырвоную армію, якая на сваіх штыхах прынесла нам вызваленне.

І калі вораг адважыцца сунуць свае свіное рыла на нашы совецкія рубяжы, то працоўныя БССР, як і ўсяго Совецкага Саюза, жалезнай сцяной стануць на абарону нашай соцыялістычнай радзімы.

У радасны для нас дзень працоўныя Совецкай Беларусі шлюць палкае прывітанне гераічнаму рабочаму класу Польшчы, Заходняй Беларусі, які змагаецца з польскім фашызмам за сваё нацыянальнае і соцыяльнае вызваленне.

Бальшэвіцкае палкае прывітанне Цэнтральнаму Камітэту нашай партыі на чале са стойкім бальшэвіком таварышам **Гікало.**

Бальшэвіцкае прывітанне Совету Народных Камісараў на чале з тав. **Галадзедам.**

Бальшэвіцкае прывітанне і пролетарскае «дзякуй» нашай гераічнай Чырвонай арміі і яе жалезнаму палкаводцу—наркому **Варашылаву.**

Бальшэвіцкае прывітанне Цэнтральнаму Камітэту нашай партыі і вялікаму зодчаму соцыялізма нашаму вялікаму роднаму **СТАЛІНУ.**

---

## КОМУНІСТЫЧНЫ ДРУК БССР
## У ДНІ ГРАМАДЗЯНСКАЙ ВАЙНЫ



ФРОНТЪ

ИЗВЕСТИЯ

Бобруйск. Революцион. Комитета (ревкома)

Сегодня в номере

ПРИКАЗ

БЕДНЯК

К неделе борьбы с тифом. КРАСНЫЙ ФРОНТ

KOMUNISTAS

DER ROTE SOLDAT

Spalių Revoliucija Rusijoj — tai kelias prie revoliucijos visame pas...

Tegyvuoja komunistų Revoliu... sas!

Tegyvuoja Darbininkų, Mažažemių ... Atstovų Tarybos Lietuvoj ... sas!

די רויטע פאָן

БЮЛЛЕТЕНЬ

НА ВЫБОРАХЪ ВЪ УЧРЕДИТЕЛЬНОЕ СОБРАНІЕ ГОЛОСУЙТЕ ЗА БОЛЬШЕВИКОВЪ № 9

MŁOT

ЗА БОЛЬШЕВИКОВЪ № 9

«Фронт» — орган выканаўчага камітэта з'езда салдацкіх, рабочых і сялянскіх дэпутатаў Заходняга фронта, «Комуністас»— літоўская комуністычная газета за 1919 год, «Бедняк»—штодзенная газета Барысаўскага павятовага рэвкома за 1920 год; «Ды ройтэ фон» — яўрэйская комуністычная газета за 1920 год; «Млот» — орган Цэнтральнага Камітэта комуністычнай партыі Літвы і Беларусі за 7 лістапада 1919 года; «Известия» Бабруйскага рэвкома за 7 снежня 1918 года; «Дэр ротэ зольдат» — газета нямецкай комуністычнай групы ўсходняй арміі і «Бюлетэнь ваенна-рэвалюцыйнага камітэта 10-й арміі».

# АПАВЯДАННІ
## ПРА ЗНОЙДЗЕНАЕ ШЧАСЦЕ

*** **А. ЦЫПІНА** ***

НАШЫМІ ПЕРАМОГАМІ МЫ АБАВЯЗАНЫ ВЯЛІКАЙ ВКП(б), ПРОЛЕТАРЫЯТУ СССР І АСАБЛІВА ПРАВАДЫРУ, НАСТАЎНІКУ І ДРУГУ, НАШАМУ ЛЮБІМАМУ **СТАЛІНУ.**

**(З лозунгаў да 15-годдзя вызвалення БССР ад белапалякаў).**

Беззаветнай адданасцю ленінскай партыі, аграмаднай любоўю да мудрага правадыра працоўных усяго свету—вялікага Сталіна прасякнуты выступленні рабочых, калгаснікаў, служачых на сходах, абмяркоўваўшых прапанову кіраўніцаў аб пасылцы ў дзень усенароднага свята пісьма знатных людзей ордэнаноснай БССР роднаму Сталіну.

У іх адбіваецца вялікае імкненне расказаць правадыру, як пад выпрацаваным кіраўніцтвам партыі, пад мудрым кіраўніцтвам і пры непасрэднай дапамозе т. Сталіна змянілася Беларусь, стаўшая з адсталай, жабрацкай краіны квітнеючай ордэнаноснай рэспублікай. Расказаць правадыру, гістарычныя словы якога аб тым, што «самым каштоўным і самым рашаючым капіталам з'яўляюцца людзі, кадры», прагучэлі на ўвесь свет, як змянілася жыццё ўсіх працоўных людзей Совецкай Беларусі, як змяніліся самі людзі, як пад кіраўніцтвам партыі з кожным днём растуць і выхоўваюцца тысячы новых людзей, загартаваныя кадры большэвікоў партыйных і непартыйных.

Сотні такіх выступленняў надрукаваны па старонках раённых і фабрычна-заводскіх газет БССР.

***

Вось нумар будакашалёўскай раённай газеты **«Ленінскі шлях»** ад 3 чэрвеня.

**«Пісьмо таварышу Сталіну — аповесць аб нашай барацьбе і перамогах»** — пад гэтай шапкай газета змясціла выступленні калгаснікаў, адпачываючых у раённым калгасным доме адпачынку, ударнікаў чыгуначнай станцыі, прэміраваных ударнікаў-трактарыстаў.

Калгаснікі-ўдарнікі ўспамінаюць праклятае мінулае, параўноўваюць яго з



**Магер Пётр — знатны чалавек Аршаншчыны, сям'ю якога паказвае на сваіх старонках аршанская раённая газета.**

сёнешнім радасным жыццём, расказваюць,

> «як яны ў калгасе знайшлі сваё радаснае сёння і шчаслівую будучыню... як яны раслі ў калгасе і сталі знатнымі людзьмі».

Вось выказваецца тройчы прэміраваны ўдарнік-калгаснік **Ляўковіч Іван:**

> «Мае дзеці не ведаюць зараз, што азначаюць словы «няма хлеба». А я гэтыя словы памятаю яшчэ з дзяцінства. Ой, як памятаю!.. Шчаслівыя растуць у нас дзеці».

Вось калгасніца **Шаўцова** Гарпіна. Адзін яе сын інжынер, другі начальнік чыгуначнай станцыі, трэці — арцельны стараста на чыгунцы, дачка тэлефаністка.

«Усіх маіх дзяцей вывела ў людзі совецкая ўлада. Няхай у пісьме тава-рышу **Сталіну**, якое напішуць знатныя людзі, будзе расказана праўды-ру, як сотні і тысячы былых бедня-коў, выведзеных партыяй на шырокі калгасны шлях, будуюць сабе шчаслі-вае радаснае жыццё».

Старыя ўспамінаюць праклятае гор-кае мінулае.

«Летам працуеш на зямлі, а зімой адпрацоўваеш пану за зямлю. Возьмеш сенакос — аддай палову сена кулаку, знімеш ураджай — аддай палову па-мешчыку»,

—успамінае 73-гадовы ўдарнік **Галухаў** Зміцро.

Партыя вывела працоўнае сялянства на адзіна-правільны шлях — шлях калектывізацыі. Пад социялістычную перабудову сельскай гаспадаркі падве-дзена магутная тэхнічная база. Вось ча-му ўдарнікі-трактарысты Будакашалёў-скай МТС хочуць, каб у пісьме т. Ста-ліну было расказана,

«як на палях Совецкай Беларусі загудзелі тысячы сталёвых коней-трактараў, дапамагаючы калгаснікам у іх барацьбе за заможнае жыццё».

Ударнікі-трактарысты хочуць раска-заць тав. Сталіну і аб тым, як выро-шчваюцца кадры вадзіцеляў машын, як трактарысты авалодваюць тэхнікай.

«Нам хацелася-б таксама расказаць праўдыру аб тым, як сын бедняка, чырвонага партызана, замучанага ня-мецкімі акупантамі, Васіль **Хамякоў** упраўляе трактарнай брыгадай, як сын былога жабрака **Ляхаў** вядзе трактар, аўладаўшы на выдатна тэх-нікай сваёй справы, дзеці былых бед-някоў — **Бігураў, Балдуеў, Лахмакоў**, бацькі якіх лічыліся ў старой вёсцы апошнімі людзьмі, зараз сталі ўдарні-камі-трактарыстамі, знатнымі людзьмі калгаснай вёскі».

Ударнікі-чыгуначнікі хочуць раска-заць роднаму Сталіну, як

«расце і квітнее БССР — верны страж социялізма на мяжы з капіта-лістычным Захадам»,

«на тэрыторыі БССР пракладзены новыя чыгуначныя лініі, пераабсталя-ваны дэпо, з невялікіх майстэрань выраслі вялікія заводы імя Ланцуцка-та і імя Мяснікова, пераабсталяваны вакзалы».

Выключнай гордасцю за сваю со-цыялістычную бацькаўшчыну, выключ-най любоўю да партыі, пад кіраўніц-твам якой працоўныя Совецкай Белару-сі атрымліваюць перамогу за перамо-гай на ўсіх участках социялістычнага будаўніцтва, вее ад гэтых выступлен-няў.

І трэба аддаць справядлівасць рэдак-цыі будакашалёўскай газеты. Ёй уда-лося падаць гэтыя выступленні не тра-фарэтна, не сухой шаблоннай мовай, а зрабіць яркую бадзёрую старонку.

***

**«Чырвоная Полаччына»** вобразна наз-вала пісьмо знатных людзей ордэнанос-най БССР т. Сталіну **«аповесцю ў двух тамах аб мінулым і цяперашнім жыц-ці працоўных Беларусі»**. Такой аповес-цю з'яўляюцца змешчаныя на старон-ках газеты карэспандэнцыі члена ЦВК БССР — старшыні калгаса «Чырвоная Сосніца» **Сабалеўка** Алёны, старшыні чырвонасцяжнага Сосніцкага сельсове-та т. **Юрчанка** — «Якой была і якой стала Сосніца», у якой

«75 проц. зямлі належала памешчы-цы Петрыкоўскай, мясцоваму папу і буйным кулакам Асташэнкавым...

«Старая Сосніца — гэта Сосніца не-праходных балот, дрэнных дарог, гале-чы і жабрацтва. Царква, кабак — вось яе «культурныя» ўстановы».

У сёнешняй калгаснай Сосніцы доб-рыя дарогі, няпоўная сярэдняя школа, некалькі пачатковых школ, клуб, парк культуры і адпачынку.


КРАСНАЯ МОЛОДЕЖЪ

«Красная молодежь» — газета Цэнтраль-нага і Менскага камітэта комуністычнага саюза моладзі Літвы і Беларусі за 20 мая 1919 года

Такой аповесцю з'яўляецца і змешчаны ў № «Чырвонай Полаччыны» ад 15 чэрвеня нарыс **«Рост»** — аповесць аб тым, як працоўнае сялянства 8 вёсак аб'ядналася ў калгас імя Сталіна і сумесна будуе радаснае заможнае жыццё.

«У 1910 годзе задыхаліся ў тыфу вёскі Малае Сітна, Нядружнае, Вялікае Сітна. Паміралі дзесяткамі людзі без медыцынскай дапамогі, бо на ўсю Нікалаеўскую воласць быў адзін доктар. Лячыліся ў мясцовага знахара Кандрата Глазкіна. Так і паміралі сяляне».

А цяпер у калгасе імя Сталіна ў брыгадах пабудаваны яслі і дзіцячыя пляцоўкі, будуецца дом соцыялістычнай культуры, калгасная парыкмахерская і т. д. Сёння калгаснікі імя Сталіна ганарацца тым, што з іх асяроддзя ўжо выраслі «7 настаўнікаў, нямала аграномаў, камандзіраў Чырвонай арміі. 30 дзяцей калгаснікаў навучаюцца ў тэхнікумах, інстытутах, вышэйшых школах».

Такой аповесцю з'яўляецца і расказ машыніста дэпо Полацк **Данілюка** («ЧП» ад 3/VI), які калісь марыў толькі аб адным, каб «сытна паесці», які прайшоў праз жудасці капіталістычнай эксплаатацыі, а цяпер — кваліфікаваны машыніст, грамадскі работнік. Тав. Данілюк гаворыць:

«Шчасце я знайшоў не адзін, яго знайшлі мільёны такіх, як я. Нас прывёў да яго вялікі **Сталін**. Яму—падзяка, яму наша першае слова ў дзень, калі наша рэспубліка атрымлівае высокую ўзнагароду — ордэн Леніна».

«Сэрца напаўняецца радасцю за родную Совецкую Беларусь» — так азагалавіла «Чырвоная Полаччына» карэспандэнцыю Алены Сабаленка. Гэта радасць праходзіць праз усе матэрыялы газеты, прысвечаныя падрыхтоўцы да ўсенароднага свята.

***

Вось нумар **слуцкай** раённай газеты **«Ленінскі шлях»** ад 10 чэрвеня. Калгасніца **Мазавецкая** Адарка расказвае пра тое, як яна толькі на сёмым дзесятку гадоў знайшла сваё шчасце ў калгасе. Мазавецкая, якая

«ніколі хлеба досыта не ела, свету белага не бачыла, калі працавала ў кулакоў, хадзіла на падзённую работу»,

зараз мае

«удоваль не толькі хлеба, але і сала... Адзелася я па-людоку, маю дзве пары бацінак: простыя і хромавыя, некалькі сукенак, платкоў. Жыву у новай хаце, якая абклеена абоямі. Вокны і дзверы пафарбаваны».

Якой гордасцю гучаць словы старой Адаркі.

«А з вёскай нашай што зрабілася»,

калі яна расказвае пра 17 гаспадарак, што аб'ядналіся ў калгас імя Сталіна, пра новы калгасны свінарнік, кароўнік, канюшню, пра набытыя 6 жнеярак, малатарню і т. д.

Якой радасцю гучаць яе словы аб

ЗВЕЗДА

ДОБИЛИ ВРАНГЕЛЯ!

Добьем Балаховича, Савинкова

И ДРУГИХ БАНДИТОВ.

ЖЕЛЕЗНАЯ МЕТЛА РЕВОЛЮЦИИ МЕТЕТ НА СЛАВУ

ДА ЗДРАВСТВУЕТ ДОБЛЕСТНАЯ

КРАСНАЯ АРМИЯ!

**Першая старонка «Звязды» за 17 лістапада 1920 года.**

тым, што на старасці гадоў яна ходзіць пасля работы ў калгасную канцэлярыю, каб паслухаць, што пішуць газеты, павучыцца гуляць у шашкі, даміно.

«А бывае, калі моладзь устройвае скокі, дык і я, старая Адарка, не адмаўлюся ад таго, каб паскакаць. Што-ж, калі маладыя гады прайшлі ў нуждзе ды бядоце, дык цяпер хоць час прышоў для радаснага шчаслівага жыцця».

***

На восьмым дзесятку гадоў знайшла сваё шчасце і Ганна **Бернатовіч,** — калгасніца з калгаса «Чырвоны сцяг», Уздзенскага раёна. На старонках **«Калгасніка Уздзеншчыны»** (№ ад 5 чэрвеня) яна расказвае аб сваім мінулым жыцці — вечнай пакуце, якая помніцца «як чорная асенняя ноч», аб 2,5 дзесяцінах зямлі, ды і то такой, што толькі «назва, што зямля, а што на ёй расло? Адзін палын ды быльнёг»... А цяпер, у 72 гады, Ганна Бернатовіч прэміраваная ўдарніца ў калгасе.

«Не гледзячы на свае гады, старасці ў сябе не адчуваю...

І моцна крыўдзіцца старая Ганна, калі некаторыя калгаснікі кажуць:

«Ой, старая, старая, дакуль ты будзеш цягацца і працаваць? Пара ўжо адпачыць хоць на старасці год».

...«Якая я старая? Працую я нароўні з маладымі, прагулаў не раблю, і адставаць у працы не адстаю»...

***

Колькі такіх апавяданняў пра знойдзенае шчасце на шляху, па якому павяла працоўнае сялянства наша партыя, мудры Сталін, надрукавана на старонках раённых газет?

Аб гэтым шчасці рабочыя, калгаснікі, усе працоўныя Совецкай Беларусі хочуць расказаць вялікаму Сталіну ў дзень свайго ўсенароднага свята.

На старонках газет рабочыя і калгаснікі пішуць і аб тым, як яны рыхтуюцца да гэтага свята. А рыхтуюцца яны сустрэць свята не толькі новымі вытворчымі перамогамі, датэрміновым выкананнем промфінплана, узорнай падрыхтоўкай да ўборкі і т. д. К святу адкрываюць новыя клубы, чырвоныя куткі, калгасныя лазні, парыкмахерскія і т. д. К святу рыхтуюць новую вопратку, упрыгожваюць хаты і т. д.

Вось на старонках **лёзненскай** раённай газеты **«Ленінскі сцяг»**, старшыня калгаса «Праўда» т. **Канстанцінаў** расказвае, што к святу ён купіў новае адзенне.

«Адзену новы касцюм, белую кашулю, хромавыя боты. Жонка таксама ўбярэцца ў святочнае адзенне. Я ёй купіў новае плацце, шаўковую хустку, новыя баціні».

Тав. Канстанцінаў расказвае, што не толькі ён так рыхтуецца да свята. Калгаснік Ганчароў к святу купіў касцюм, Ганчароў Іван, Міхальскі, Пімонаў купляюць венскія крэслы, люстры і т. д.

Вось калгаснік **Прусаў** купіў к свяtу партрэты правадыроў, гадзіннік, два венскія крэслы, хату ён выклеіць абоямі, печку пабеліць. У дзень свята ён адзене самы лепшы касцюм, хромавыя боты. Жонка надзене купленыя к святу новыя баціні, добрую сукенку, «а сукенак у яе шмат». Аб усім гэтым Прусаў з радасцю піша ў «Ленінскі сцяг».

«Вечарам у дзень свята наладжу сямейны вечар. Пазаву гасцей. Прыняць гасцей ёсць чым. Намалоў пшанічнай мукі, ёсць сала, напяку булак, купляю піва».

Да ўсенароднага свята рыхтуюцца ў кожным калгасе, кожнай калгаснай хаце.

«Дзень узнагароды нашай Беларусі ордэнам Леніна адсвяткуем так, як яшчэ ніколі не святкавалі. Ды інакш і быць не можа. Бо ордэн Леніна, якім узнагароджваецца Беларусь, — гэта ордэн, заваяваны намі, ордэн, ацэньваючы нашы перамогі».

Так пішуць у **«Чырвоную Полаччыну»** калгаснікі-ўдарнікі з калгаса «Заветы Леніна».

Яны выражаюць настрой усіх працоўных ордэнаноснай БССР.

Ордэн Леніна заваяваны адданай работай дзесяткаў тысяч ударнікаў соцыялістычных прадпрыемстваў і палёў Совецкай Беларусі пад кіраўніцтвам КП(б)Б і яе ЦК на чале з ордэнаносцам т. **Гікало.**

«СІЛА БОЛЬШЭВІКОЎ, СІЛА КОМУНІСТАЎ ЗАКЛЮЧАЕЦЦА Ў ТЫМ, ШТО ЯНЫ ЎМЕЮЦЬ АКРУЖАЦЬ НАШУ ПАРТЫЮ МІЛЬЁНАМІ БЕСПАРТЫЙНАГА АКТЫВА». **(СТАЛІН).**

# ПАЛКІ ТРЫБУН ПАРТЫЗАН-КОМУНІСТАЎ

★ ★ ★ **А. ГАРТ** ★ ★ ★

Надыходзіў 1920 год, які прынёс неўвядаемую славу гераічным палкам Чырвонай арміі, год вызвалення Беларусі ад белапанскіх акупантаў. Белапольскае войска імкліва адступала пад сакрушальнымі ўдарамі нашых чырвоных часцей. Удары сыпаліся на армію акупантаў не толькі з фронта, але і з тылу. У кожнай вёсцы, у лясах, у равах, у кустах—усюды насцігаў ворага чырвоны партызан—баявы друг і памочнік комуністычнай партыі, Чырвонай арміі, беззаветны баец за ўладу Советаў. Кіруемыя комуністамі, хутка разрасталіся чырвоныя партызанскія атрады.

**«За кароткі час з некалькіх дзесяткаў лясных братоў, наша арганізацыя разраслася ў шматтысячную партызанскую армію, якая ў сучасны момант з'яўляецца грозой і страшылішчам польскіх забойцаў-гвалтаўнікоў. Уся панская сволач дрыжыць перад намі і бяссільна скрыгоча зубамі, калі чуе аб нашых подвігах».**

Так пісала 17 мая 1920 года падпольная **«Беларуская праўда»**—баявы орган партызан-комуністаў Беларусі. Вогненнае большэвіцкае слова, таксама як куля, шабля і тапор партызана, метка разіла ненавіснага ворага. Падпольная партызанская газета выходзіла на тэрыторыі акупаванай Беларусі.

Выкрываючы захватніцкія мэты акупантаў, адзначаючы крывавы шлях паноў, «Беларуская праўда» згуртоўвала працоўныя масы вакол лозунга комуністычнай партыі. Вучачы працоўных як ствараць партызанскія атрады, «Беларуская праўда» выхоўвала моцныя самаафярныя кадры чырвоных байцоў, выхоўвала ў іх пачуццё свядомай жалезнай дысцыпліны. Ведучы ў бой партызанскія атрады, «Беларуская праўда» пашырала палітычны кругавід чырвоных байцоў, натхняла іх шырокай перспектывай таго, якім стане жыццё працоўных, калі не будзе памешчыкаў і фабрыкантаў, калі рабочыя і сяляне


БЕЛОРУССКАЯ ПРАВДА

ОРГАН ПАРТИЗАН КОММУНИСТОВ БЕЛОРУССИИ.

№ 4. | № 4.

НАШИ ЗАДАЧИ

«Белорусская правда» — газета партызан-комуністаў Беларусі, якая выдавалася ў тыле белапалякаў.

стануць гаспадарамі сваёй краіны, свайго жыцця. Так ва ўмовах суровага падполля і жорсткага крывавага тэрору газета партызан ажыццяўляла ленінскае вучэнне аб большэвіцкім друку—прапагандысце, агітатары, арганізатары.

**
*

Паны, руйнуючы і грабячы гарады і вёскі Беларусі, у той-жа час прабавалі прыкрыць свае крывавыя справы балбатнёй аб свабодзе. «Беларуская праўда» бязлітасна выкрывала гэту наглую хлусню акупантаў. Вось што паведамляла газета ў пісьме «Зверствы польскай жандармерыі».


БЕЛОРУССКАЯ ПРАВДА

ОРГАН ПАРТИЗАН КОММУНИСТОВ БЕЛОРУССИИ

«Белорусская правда»—газета партызан-комуністаў, якая выдавалася ў падполлі ў часе белапольскай акупацыі.

* * *


К оружию! На бой!

КАК ПОБЕДИТЬ

Другая старонка першага нумара партызанскай газеты «Беларусская «Правда».

**«Каб утрымаць сваю ўладу над рабочымі і сялянамі, каб мець магчымасць і далей высмоктваць апошнія сокі з працоўных, польская шляхта не ганьбуе нічым. Агнём і мячом яна распраўляецца з рабочымі і сялянамі.**

**У Слуцкім павеце польскія жандары разграбілі і спалілі цэлую вёску ў 60 домоў толькі за тое, што сяляне не аддалі ў польскую армію апошніх коней.**

**У адной вёсцы Бабруйскага павета польскія жандары арыштавалі 37 сялян і расстралялі 9 за тое, што тыя адмовіліся даць ім фурманкі.**

**Польскія жандары грабяць направа і налева, дзе толькі магчыма. Ва многіх паветах няма ні адной вёскі, якая не падвергласяб павальнаму разграбленню і гвалту».**

Цяжкія дні перажывала акупаваная Беларусь. Партызанская газета кліча: «Да зброі!» «На бой!», «У лясы!» Яна кліча «Паўстанем усе і мы вызвалімся ад панскага гнёту».

«Беларуская праўда» прыводзіць натхняючыя, усяляючыя веру ў перамогу пісьмы чырвоных партызан, як яны змагаюцца за соцыялістычную Беларусь. Вось партызан вёскі Вялікавічы піша: «Як мы змагаемся за свабоду»:

**У вёсцы Вялікавічы жандары збілі і арыштавалі 7 сялян і павялі іх у горад у турму. Абураныя сяляне заразжа па ад'ездзе жандараў склікалі сход, на якім аднадушна рашылі арганізаваць партызанскі атрад, каб адпомсціцца за гвалт.**

**Многія вызваліся тут-жа зрабіць пагоню за жандарамі і адбіць сваіх таварышоў. Узброіўшыся чым папала, яны кінуліся ўздагон і насцігнулі іх за 20 вёрст ад горада. Раптоўным націскам яны накінуліся на прышоўшых у замяшанне жандараў і, адабраўшы ў іх зброю, тутжа іх перабілі і сумесна з вызваленымі таварышамі вярнуліся дадому.**

**Сяляне вёскі Вялікавічы пакляліся не скласці зброі, пакуль канчаткова не будзе пакончана з панскай няволяй».**

Партызан А. Вольны ў пісьме «Пакуль налётамі, а потым у канец даб'ем» расказвае, як партызаны раптоўным налётам на ваенны польскі абоз адабралі многа прадуктаў, зброі і коней у белых,

як у наступны дзень яны зрабілі налёт на станцыю чыгункі.

«Мы не адны» ,—горда заяўляе працоўным Беларусі партызанская газета. Яна паведамляе аб выдатных перамогах Чырвонай арміі на ўсіх франтах грамадзянскай вайны, аб тым, што неабсяжныя землі вялікай краіны энергічна вызваляюцца чырвонымі палкамі ад унутранай контррэвалюцыі і імперыялістычных інтэрвентаў.

**«Мы не адны. Ва ўсім свеце разгараецца пажар народнага абурэння. Пасля праклятай чатырохгадовай бойні працоўныя ўсіх краін прызываюць да адказу сваіх прыгнятальнікаў. Мільёны афяр заклікаюць да помсты. Працоўныя паўстаюць, каб звергнуць векавы гнёт і ўстанавіць сваю савецкую ўладу, якая толькі адна можа даць мір усяму свету».**

**
*

Чырвоныя арміі Паўднёва-заходняга і Заходняга фронта перайшлі ў наступленне. 31 мая «Беларуская праўда» аншлагам дае:

**«Таварышы рабочыя і сяляне Беларусі!**

**Панскія жандарскія банды ў жалезных цісках. Чырвоная армія іх гоніць на фронце, чырвоныя партызаны іх б'юць у тыле».**

І ў артыкуле «Без страху ўперад!» газета радасна піша:

**«Звяршылася!**

**Багатырскім ударам Чырвоная армія апракінула шляхецкія шайкі на фронце.**

**Націск чырвоных герояў быў настолькі нечаканым, што панскія дварняжкі не паспяваюць нават сваіх костачак убраць і на кожным кроку здаюць нашым вызваленцам — чырвонаармейцам ваенную здабычу, трафеі адзін другога багацей і прыгажэй.**

**Ліхімі налётамі нашых слаўных лясных братоў чырвоных партызан белая панская армія трэплецца знутры і трашчыць па ўсіх швах: абозы з ваенным дабром забіраюцца намі, бягучыя польскія салдаты абстрэльваюцца нашымі атрадамі»...**

Якая задача партызан у гэтыя дні? «Беларуская праўда» падрабязна пералічвае задачы працоўных у «10 запаведзях чырвоных партызан».

Бі памешчыкаў і жандараў; бязлітасна распраўляйся з польскай шляхтай і

Кровожадная польская шляхта жжет наши деревни и города, убивает наших братьев и сестер, грабит и насилует нас на каждом шагу.

Нужно положить конец издевательствам и насилию! Все в лес! Все на беспощадную борьбу с польскими [illegible] и жандармами!

ВМЕСТЕ и ВРОЗЬ

Наша дубинушка

КРЕСТЬЯНСКАЯ ЖИЗНЬ

Чацвертая старонка партызанскай газеты «Белорусская правда».

★ ★ ★

Пришла пора расчитаться с ненавистными польскими жандармами. Советская Россия спешит нам на помощь.

Ударим же сильней по панской башке. Дружно вперед — и мы победим: на нашей стороне—правда!

Десять заповедей

красных партизан

Долой палачей! Смелее, без страха, вперед!

Дзесяць запаведзяў чырвоных партызан, якія друкаваліся ў партызанскай газеце «Белорусская правда»

афіцэрамі; знішчай, абяззбройвай і гані ад сябе польскую армію.

Руйнуй у тылу палякаў чыгунку, рэж тэлефонныя і тэлеграфныя правады, падпільвай тэлеграфныя слупы, узрывай масты праз рэкі, праз дарогі, падпальвай ваенныя склады, перахватвай польскіх коннікаў, адбірай у іх пакеты, данясенні.

Спяшайся на дапамогу надыходзячай Чырвонай арміі, працягні ёй братэрскую руку. Зві ў свае партызанскія атрады таварышоў, трымай цесную непарыўную сувязь з бліжэйшымі партызанамі, каб у патрэбны момант дружна абрушыцца на панскую галаву.

Арганізуючы сілы працоўных, расшыраючы партызанскі рух, «Беларуская праўда» клапатліва, уважліва аберагала байцоў ад панскіх правакацый. Вось пісьмо з палескіх лясоў, азагалоўленае «Будзьце на варце». Партызан таварыш Евуркін апісвае як у вёсцы Конеўшчызна з'явіўся нейкі селянін, назваўшы сябе «хадаком па святых мясцах». Гэты хадок пачаў гутаркі з сялянскімі хлапцамі аб стварэнні чырвонага партызанскага атрада.

**«Незнаёмы селянін нам паказаўся падазроным таму, што мы добра ведаем усіх партызан акружаючых вёсак, і яшчэ таму, што ён спыніўся ў доме мясцовага шляхціча Кандравецкага.**

**Паслаўшы брата на ўсякі выпадак за дапамогай, я, жадаючы даведацца, да чаго хіліць гэты падазроны селянін, выззваўся паступіць партызанам; майму прыкладу паследавалі чатыры хлопцы з стаяўшых вакол сямі чалавек. Незнаёмы падзякаваў нас і папрасіў прыйсці к двум гадзінам ночы на дарогу, вядучую ў горад, зусім гатовымі к ад'езду.**

**Каля поўначы, прыехаўшы як быццам з дровамі з лесу, мой брат паведаміў, што 9 чырвоных партызан падрыхтаваліся і чакаюць справы. Я сказаў яму быць к двум гадзінам ночы разам з таварышамі ва ўрочышчы ля гарадской шашы.**

**Ва ўмоўлены час я з чатырма таварышамі з'явіўся на месца сустрэчы. Але замест сяброўскага прывітання з канавы каля дарогі выскачылі шэсць узброеных чалавек з выклікам «Рэнкі до гуры». Не гаворачы ні слова, мы паднялі рукі і сталі чакаць далейшага нашага лёсу. Паміж гэтых узброеных людзей я пазнаў пана Кандравецкага, незнаёмага селяніна і двух жандараў з суседняй вёскі Сакавічы. Усе гэтыя людзі, пагутарыўшы паміж сабой па-польску, умовіліся адвесці нас да рэчкі за гаем і перастраляць. Мае таварышы былі вельмі ўсхваляваны, але я быў спакойны, бо ведаў, што партызаны не выдадуць.**

**І сапраўды, не паспелі мы ступіць у гай, як нечаканым ударам чырвоныя партызаны абрушыліся на нашых катаў. Некалькі мінут—і на зямлі валяліся чатыры трупы і два курчыўшыхся ў перадсмяротных сударгах жандары. Пры гэтай сутычцы намі было захвачана 6 вінтовак, 4 бомбы і 3 рэвальверы. Заразжа пасля схваткі мы селі на падрыхтаваныя фурманкі і ўкацілі ў бліжэйшы лес, адкуль прабраліся да сваіх».**

Расказ партызана Евуркіна — расказ аб мужнасці, знаходлівасці і адвазе людзей, якіх выхавала наша партыя.

***

25 мая нашай доблеснай Чырвонай арміяй быў вызвален ад панскай няволі горад Барысаў. Паведамляючы аб дзікай крывавай расправе, учыненай акупантамі над мірным насельніцтвам Барысава перад адступленнем, «Беларуская праўда» высунула 7 чэрвеня баявую задачу: перашкаджаць адступленню белых банд, дэзарганізаваць іх тылы, адбіваць маёмасць, награбленую ў працоўных, захватваць зброю.

І дарэмна жандарская газета «Ганец мінскі» прабавала напалохаць камуністаў, працоўных Беларусі грознымі карамі.

**«Не дапаможа, паны яснавяльможныя!** — пісала «Белорусская праўда». — **Не для таго мы паўсталі супроць гвалту і рабства, каб спалохацца грубага паліцэйскага вокрыку польскага жывадзёра».**

17 чэрвеня падпольная газета поўна паведамленняў аб паспяховых справах чырвоных партызан.

Блізіцца час вызвалення Беларусі ад белапольскай акупацыі. У гэтыя дні газета чырвоных партызан-камуністаў ставіць перад батракамі, перад працоўнымі сялянамі велізарнай палітычнай важнасці пытанне: «Што нам трэба?»

«Памешчыка гнаць вон, а яго дабро браць на ўчот і ахоўваць—гэта зараз народнае дабро»...

Як трэба будаваць жыццё ў совецкай вёсцы, у вёсцы без памешчыкаў? Газета высоўвае задачу:

**«Лепш за ўсё не дзяліць зямлі, а агульна яе апрацоўваць, ствараючы арцелі... У нас многа батракоў. Для іх частка маёнткаў павінна быць пакінута і пабудаваны совецкія гаспадаркі. Гэтыя гаспадаркі будуць карміць гарады».**

Так, ідучы да заветнай мэты—да стварэння Совецкай Беларусі—падпольная газета пачала арганізоўваць масы на новую, творчую работу, на аднаўленне разбуранай белагвардзейцамі гаспадаркі, на справу будаўніцтва соцыялізма.

***

«Беражы сваю чырвоную газету! Прачытай і перадай таварышу,— пісала ў кожным нумары «Беларуская праўда»— вогненны трыбун комуністаў-партызан Беларусі. Працоўныя масы любілі сваю газету, пісалі ў яе, чыталі і распаўсюджвалі яе. «Партызанская марсельеза», партызанская песня, «Наша дубінушка», напісаныя Фірынюком, батраком Сямёнам, ахвотна спываліся ў атрадах чырвоных байцоў.

І сёння, калі ўспамінаеш легендарныя подвігі нашай слаўнай непераможнай Чырвонай арміі, мужныя выступленні чырвоных партызан, як радасна перагортваць старонкі «Беларускай праўды», якія дышуць вялікай палымянасцю да класавых ворагаў і глыбокай любоўю, бязмежнай адданасцю вялікай справе нашай партыі, нашай соцыялістычнай радзімы, справе міжнароднага пролетарыята.

---

# У ГЛЫБОКІМ ПАДПОЛЛІ

★ ★ ★ ★ **С. ВОЛЬПАЎ** ★ ★ ★ ★

У 1918 годзе, пасля доўгага беспрацоўя, я пачаў працаваць у ваеннай нямецкай друкарні. У гэты час я часта сустракаўся з друкаром тав. **Стронгіным**, які працаваў у падпольнай комуністычнай арганізацыі. Аднойчы т. Стронгін папрасіў мяне: «Дапамажы дастаць шрыфт для друкавання пракламацый». Умовіліся з ім аб часе і месцы, куды даставіць шрыфт.


Дом на Мала-Татарскай вуліцы ў Менску, дзе набіралася і друкавалася «Подпольная Правда».

На наступны дзень ва ўмоўлены час я прынёс т. Стронгіну патрэбны шрыфт. Ён разлажыў яго ў каробкі з-пад запалак, зрабіўшы з іх своеасаблівыя наборныя касы.

Праз т. Стронгіна пачынаю сустракацца з падпольнымі работнікамі ў памяшканні падпольнай арганізацыі, якая знаходзілася на Школьнай вуліцы пад назвай «Столовая строителей». Пазнаёмілі мяне з таварышамі **Славінскім, Крыніцкім, Ходашам, Заводнікам, Танхілевічам** і інш.

Рост уплыву падпольнай комуністычнай арганізацыі на працоўных павялічыў і патрэбнасць у друкаваным слове. Друкарня, якая знаходзілася ў нашым распараджэнні, не магла задаволіць уз-

росшыя патрабаванні. Трэба было павялічыць друкарню. Дагаварваемся з уладальнікам бяздзейнічаючай у той час друкарні, што знаходзілася на Комсамольскай вуліцы. Тут друкуем газету «**Подпольная правда**», лістоўкі, брашуру «Канстытуцыя Совецкай улады». У гэтай друкарні мы працавалі да прыходу совецкай улады.

***

Па партыйнай мабілізацыі я быў накірован у Чырвоную армію для ўдзелу ў барацьбе супроць белапалякаў.

Карыстаючыся выпадкам, што асноўныя сілы маладой совецкай рэспублікі былі кінуты на барацьбу з контррэволюцыяй на паўднёвым і ўсходнім фронтах, белапольскім бандам удалося атрымаць часовую перамогу на Заходнім фронце. Пад пагрозай акупацыі апынуўся і Менск.

Па выкліку Совета абароны Літвы і Беларусі штаб батальёна накіроўвае мяне ў Менск. З'яўляюся ў совет абароны к тав. **Кнорыну.** Тав. Кнорын расказаў мне, для чаго мяне выклікалі і накіраваў да тав. **Багуцкага.**

У тав. Багуцкага я застаў тт. **Мелявіцкага** і Пецю **Вараб'ёва**. Атрымаўшы ад тав. Багуцкага неабходныя матэрыялы, мы ўстанавілі час і месца нашы ад тав. Багуцкага неабходныя матэцяі Менска белапалякамі не сустракацца. Маемасць для будучай падпольнай друкарні была падрыхтавана і складзена ў пэўным месцы.

Праз тыдзень Менск быў акупаваны і мы прыступілі да работы. Першае наша явачнае месца было ў праўленні рабочага кааператыва, які знаходзіўся на пляцы Волі. Там я сустрэўся з тав. Тагхілевічам, Гурэвічам і Вараб'ёвым. Пасля нядоўгай нарады вырашана было выпусціць першую пракламацыю.

У памяшканні, дзе была захавана падпольная друкарня, працаваць было небяспечна. Я далажыў аб гэтым падпольнаму камітэту. Вырашана было падшукаць больш надзейнае месца. Часова, да падшукання адпаведнага памяшкання, мы дагаварыліся з уладальнікам друкарні, дзе працавалі ў часе нямецкай акупацыі, і выпусцілі некалькі пракламацый. Праз некаторы час мы знайшлі кватэру, па Мала-Татарскай вуліцы, у поўразваленай хатцы, перанеслі туды ўвесь інвентар. Наша падпольная друкарня мела 2 поўкасы з польскім і рускім шрыфтамі і адну друкарскую машынку — бастонку.

Па Татарскай вуліцы амаль ніякага руху не было. Гэта давала нам магчымасць сачыць за кожнай асобай, якая паказвалася на вуліцы. У часе работы дзверы друкарні былі запёртыя, у пакоі тапілася жалезная печка (каб у выпадку налёту можна было ўсё спаліць). Дзеці гаспадыні заўсёды былі на варце. Пакажацца хто-небудзь на вуліцы, дзеці адразу паведамляюць нас і стук машынкі на час спыняецца.

Арыгіналы для друкавання лістовак мы атрымлівалі на явачных кватэрах праз тт. Гурэвіча, Яна Дзембы, Мілера і іншых. Кожная пракламацыя друкавалася ў колькасці 5.000 і больш экземпляраў.

Надрукаваныя экземпляры мы клалі ў кошык, зверху прыкрывалі гароднінай, а жанчына пераносіла кошык да вызначанага месца. Там кошык перадаваўся чакаўшаму нашаму таварышу, які даставіў лістоўкі на явачную кватэру. Адтуль яны перадаваліся таварышам для распаўсюджання.

На працягу двух тыдняў наш друкарскі станок няспынна друкаваў лістоўкі на беларускай і рускай мовах. Імі мы паваднялі вёскі. Асаблівая ўвага ў лістоўках была звернута на барацьбу супроць абвешчанай беларускай ваеннай камісіяй пры польскім генеральным штабе мабілізацыі сялян у польскую армію. Кожная лістоўка дасягала сваёй мэты. Яна як дынаміт узрывала ўладу акупантаў, яна ўскрывала ўсю іх злачынную дзейнасць, расказвала аб гераічнай барацьбе і перамогах Чырвонай арміі над контррэволюцыйнымі бандамі, прызывала працоўных уступаць у рады Чырвоных партызан, аказваць узброенае супраціўленне белапольскім акупантам.

Распаўсюджвалі пракламацыі комсамольскія арганізацыі і чырвоныя партызаны. Гэтай работай кіраваў тав. **Максімовіч.**

Наша падпольная арганізацыя прыкладвала ўсю энергію, каб поўнасцю заваяваць кіраўніцтва профсаюзамі, каб зрабіць профсаюзы сапраўды баявымі арганізацыямі рабочага класа. У гэтай справе велізарную ролю адыгралі нашы

шматлікія лістоўкі, якія распаўсюджваліся сярод рабочых.

Профсаюзны актыў быў прыцягнут да распаўсюджання пракламацый сярод рабочых. Актыўны ўдзел у гэтым прымалі тт. **Лейбаў, Руткоўская, Надзя Гарэлік** і інш.

Польская ахранка, будучы не ў сілах спыніць рост уплыву падпольнай камуністычнай арганізацыі і яе бальшэвіцкага друку на рабочыя масы, разгарнула шалёны тэрор. Арыштоўвалі кожнага западазронага ў камуністычнай дзейнасці, у распаўсюджванні лістовак, пракламацый.

Правакатар Плоткін, які аказаўся ў нашай арганізацыі, перадаў у рукі жандармерыі лепшых нашых таварышоў Вараб'ёва, Фішэра, Танхілевіча і інш. Памяшканне саюзаў, дзе было наша апошняе месца яўкі, было падвергнута вобыску. Многія члены саюза былі арыштаваны.

Пасля гэтага мы ўзмацнілі канспірацыю. Я захаваў сувязь выключна з тав. Гурэвічам і Мілерам, які кіраваў тады нашай падпольнай работай. Ад іх я атрымліваў арыгіналы для друкавання пракламацый і ім-жа перадаваў надрукаваныя лістоўкі.

Апошнія дні панавання белапольскіх легіянераў. Горад ахоплен пажарамі і пагромамі. У гэты час мы выпусцілі адозву да насельніцтва з заклікам падпольнага камітэта захаваць спакой і парадак у горадзе, не паддавацца правакацыям цёмных сіл і дружна сустрэць падыходзячую Чырвоную армію.

11 ліпеня 1920 г. у Менск увайшла Чырвоная армія. У 7 гадзін раніцы прыехаў тав. Кнорын, які стаў на чале часовага ваеннарэволюцыйнага камітэта.

---

# Падпольная друкарня

Л. ПАЛЕЕС



Наборныя касы і станок, на якіх набіралася і друкавалася «Подпольная правда».



ПОДПОЛЬНАЯ ПРАВДА

Першы нумар падпольнай комуністычнай газеты «Подпольная правда».

Перад прыходам белапалякаў большасць партыйцаў і комсамольцаў Менска пайшлі на фронт. Невялікая група комсамольцаў асталася ў Менску і пачала пад кіраўніцтвам партыі рыхтавацца да пераходу на падпольную работу.

8 жніўня 1919 г. я і яшчэ некалькі комсамольцаў сядзелі каля печкі ў былым комсамольскім клубе (на рагу Комсамольскай і Рэволюцыйнай вуліц) і палілі матэрыялы і дакументы, якія маглі выкрыць нашу работу і нашых кіраўнікоў.

Раптам пачулі залпы, выбухі. Гэта з польскіх самалётаў кідалі знарады. Я пабег дамоў на Мала-Татарскую вуліцу. У горадзе—бытцам усе вымерлі. Дзе-ні-дзе, туляючыся да сцен, ціха прабіраліся людзі. У гэты-ж дзень у 2 гадзіны дня белапольскія акупанты, вярней іх разведка, увайшлі у Менск.

Разам з панамі прышлі і тыя жудасці, якія перажылі працоўныя Менска за 11 месяцаў белапольскай акупацыі: вобыскі, арышты, расстрэлы і шыбеніцы, гвалты, пагромы, эксплаатацыя, нацыянальны гнет.

У глыбокім падполлі партыйная арганізацыя і пад яе кіраўніцтвам комсамол вялі сваю работу па арганізацыі і мабілізацыі мас працоўных на барацьбу з польскімі акупантамі. Адным з важнейшых фактараў у гэтай рабоце з'явіўся падпольны большэвіцкі друк.

У адзін з вераснёўскіх дажджлівых дзён я пайшоў па ўказанаму мне працаваўшым тады падпольна т. **Вольпавым** адрасу на Нова-Маскоўскую вуліцу. Адтуль прывёз на тачцы друкарскую ручную машынку «Бостонка». Было дрэнна надворе, і ніхто не звярнуў увагі на тое, што я вязу ў тачцы. Прывёз машыну на Мала-Татарскую вуліцу ў дом № 24 кв. 1.

Праз некаторы час прыступілі да перакідкі шрыфта. Справа была цяжкая. Перанесці ўвесь шрыфт адразу нельга было. Пераносілі мы яго ў кошыку невялікімі пачкамі, зверху прыкрывалі рознай гароднінай, бульбай.

Нясу я аднойчы ў кошыку шрыфт. Натужна было несці, груз быў досыць цяжкі. Заўважыў гэта паліцэйскі, спыніў мяне і запытаў:

— Што ты нясеш?

— Гэта... гэта... нічога, шрыфт...

— А не спірытус?

— Не, не спірытус.

— Ну, ідзі...

Іду і думаю: добра, што на дурня папаў, а то з перапалоху ляпнуў, што нясу шрыфт. Пашанцавала на гэты раз.

Нарэшце, наладжана падпольная друкарня. Прыступілі да работы. Кожны раз, калі друкавалі на машынцы (тав. Вольпаў, мая матка ці я), мы ўстанаўлялі дзяжурства ўнутры каля дзвярэй, у сенцах і на вуліцы. Калі паказвалася падазроная асоба, нам паведамлялі стукам у вакно, і работа на машынцы спынялася. Спыняць работу неабходна было па двух прычынах: па-першае, каб не захвацілі знянацку і, па-другое, на вуліцы быў чуцен стук машынкі. Друкавалі мы заўсёды днём, удзень менш быў чуцен стук машынкі, чым уночы. Набіраў-жа я выключна ноччу пры святле стэарынавай свечкі.

Шмат адозваў, лістовак надрукавалі мы ў нашай падпольнай друкарні за час белапольскай акупацыі: адозвы да гадавіны Окцябрскай рэволюцыі, да дня Парыжскай комуны, аб становішчы ў краіне, да салдат польскай арміі («до жолнежаў польскіх»), да сялян і т. д. Адозвы выпускаліся на беларускай або польскай мовах. Яны распаўсюджваліся па гораду, па вёсках, вайсковых часцях і казармах польскіх легіянераў. Пасля выпуску кожнай праклaмацыі друкарня часова спыняла работу. Гэта была неабходная асцярожнасць. Справа ў тым, што пасля з'яўлення праклaмацый пачыналіся павальныя вобыскі, арышты. Трэба было даць, як кажуць, «улечся страстям», а потым пачынаць зноў работу...

Такім-жа парадкам друкавалі мы і падпольны нумар журнала «Факел комунізма». Апошні нумар падпольнага журнала нам так і не ўдалося поўнасцю выпусціць: перашкодзіла правакацыя. Ужо былі надрукаваны некальк старонак. Але раптам нас паведамілі. «У вас будзе вобыск». Надрукаваныя старонкі мы тут-жа кінулі ў жалезную печку, а гатовы набор разбурылі. Пасля аказалася, што гэта была звычайная правакацыя.

Астаўся ў мяне ў памяці тэкст апошняй адозвы, выпушчанай за дзень да прыходу чырвоных у Менск. Гэта была адозва да насельніцтва горада.

Польскія банды трусліва пакідаюць Менск,—паведамляла адозва.

Не паддавацца правакацыйным чуткам, што распаўсюджваюць розныя польскія шпіёны, захоўваць парадак, поўны спакой, маючы па ўвазе, што нам на дапамогу ідзе Чырвоная армія—заклікала ў адозве падпольная комуністычная арганізацыя і папярэджвала, што ўсе заўважаныя ў парушэнні парадку, грабяжах будуць прыцягвацца да суровай адказнасці па законах ваеннага часу.

Адозва была выпушчана 10 ліпеня к вечару. А 11 ліпеня раніцой працоўныя Менска радасна сустракалі сваіх дарагіх вызваленцаў—непераможную Чырвоную армію.

Пролетарии всех стран, соединяйтесь!

# СТЕННАЯ ГАЗЕТА РОСТА
ГОМЕЛЬСКОГО ОБЛАСТНОГО БЮРО

№ 1[illegible]. Четверг 15

## КРАСНЫЙ ФРОНТ.

Оперативная радиосводка от 14 июля

Западный фронт.

Виленское направление. Наши войска на широком фронте форсировали реку Вилию, причем в боях захватили пленных.

Западнее Молодечно наши части подходят к старым германским позициям.

Барановичское и Слуцкое направления. Наше наступление успешно продолжается.

Лунинецкое направление. Нами занят ряд селений в районе Полесской железной дороги.

Юго-Западный фронт.

13 июля нами заняты станция и город САРНЫ.

## Белые, черные и красные.

Франция посылает на помощь Польше чернокожих. Последние целыми партиями переходят на сторону Красных.



[illegible]

Роста—насценгазета Гомельскага абласнога бюро.

# „КРАСНОАРМЕЙСКАЯ РОСТА“

## НА ФРОНЦЕ БАРАЦЬБЫ З БЕЛАПАЛЯКАМІ

★ ★ ★ В. ЖУКАЎ ★ ★ ★

Студзень 1918 года. У раёне станцыі Гараны і Палаты дзейнічае невялікі чырвонагвардзейскі атрад. Задачы атрада — не даць магчымасці нямецкім акупантам прасоўвацца далей той граніцы, на якой яны спыніліся ў снежні—студзені месяцах, аберагчы насельніцтва ад грабяжоў і здзекаў акупантаў.

Атрад наш, які спачатку налічваў толькі 60 чалавек, з кожным днём рос за лік былых салдат з мясцовага насельніцтва. К вясне ўжо было некалькі атрадаў, у кожным было больш чым па 100 чалавек. У красавіку 1918 г. гэтыя атрады былі арганізаваны ў 22-гі віцебскі асобны чыгуначны полк.

Наш атрад займаў даволі працяглую тэрыторыю. Байцы атрада былі размешчаны ў Жэльцах, Жуковічах, Заполлі, Глушаніне і т. д., г. зн. па тэрыторыі каля 20 клм. Каб трымаць штодзенную сувязь паміж асобнымі групамі, патрэбна было арганізаваць сістэматычную інфармацыю. Трэба было ахапіць усіх байцоў атрада бальшэвіцкім уплывам, узнімаць іх боездольнасць, падтрымліваць у атрадзе жалезную дысцыпліну. Лепшым сродкам для гэтага быў бальшэвіцкі друк.

Але бальшэвіцкіх газет, кніг і журналаў у атрад пападала вельмі мала. Ад гарадскіх цэнтраў мы былі адарваны. Полацк быў заняты немцамі, у Віцебск чыгункай дабрацца было немагчыма, бо на рацэ Обаль быў узарван мост. Газеты мы час-ад-часу атрымлівалі, але зусім недастатковую колькасць. Некалькі газет павінны былі абслужыць усе пункты, дзе былі нашы байцы. На адным са сходаў атрада была вынесена пастанова арганізаваць сваю баявую паходную газету—інфармацыю, якая-б давала магчымасць знаёміцца з абстаноўкай работы атрада. Пачалі мы выпускаць газету.

Праўда, тое, што мы выдавалі, вельмі мала было падобна на газету: гэта

былі напісаныя ад рукі кавалачкі паперы, размножаныя не больш, як у дзесятку экземпляраў. Але яны адыгрывалі вялікую арганізуючую ролю. У гэтых газетах-рукапісах мы дзяліліся вопытам сваёй барацьбы, давалі аператыўныя весткі і данясенні, змагаліся за жалезную дысцыпліну ў атрадзе.

Спачатку газета чыталася толькі байцамі, потым яна дайшла і да навакольнага насельніцтва. Удзел у выданні паходнай рукапіснай газеты прымалі ўсе больш-менш граматныя байцы і камандзіры. Але граматнасць у байцоў і камандзіраў у той час была зусім нізкай. Найбольш граматнымі аказаліся — я (у той час камандзір узвода), т. **Сутулла** Алек — былы матрос балтыйскага флота, выдатны агітатар, які сваімі выступленнямі на сходах запальваў у байцоў энтузіязм і жаданне змагацца з акупантамі да канца, і т. **Фандарэнка** Генадзі — рыжскі рабочы-шклодуў. Мы з т. Сутулла, Фандарэнка і яшчэ адным байцом (прозвішча яго ўжо не памятаю, памятаю толькі, што звалі мы яго Ванька-казак за казацкую чупрыну і папаху на бок) фактычна і арганізоўвалі і выпускалі нашу паходную газету.

Проста святам з'яўлялася для байцоў і камандзіраў атрыманне цэнтральнай бальшэвіцкай газеты, мясцовай бальшэвіцкай лістоўкі. Невялікімі групамі збіраліся байцы, перачытвалі кожны артыкул, артыкулы Леніна перачытваліся па некалькі раз. Кожны атрыманы нумар «Правды», «Известий» быў для нас сапраўды вострай зброяй у баявой абстаноўцы атрада.

***

1919 і 1920 гады. У Беларусі гаспадараць банды белапольскіх акупантаў. Белапалякі занялі франтавую паласу — левы бок Заходняй Дзвіны ад Полацка да Дзясны, Дрысы і Дзвінска. На ўсёй гэтай тэрыторыі яны тварылі нечалавечыя здзекі над працоўным насельніцтвам. Палілі вёскі і мястэчкі, катавалі, расстрэльвалі, вешалі, грабілі насельніцтва. У кожным мястэчку, кожнай вёсцы віселі вялікія плакаты, загады, аб'явы. У гэтых плакатах і загадах белапольскія акупанты пагражалі сялянам за няўплату накладзенай на вёску кантрыбуцыі, невыкананне развёрсткі па здачы сена, аўса, бульбы, жывёлы для польскага войска, спаліць вёску, расстрэльваць і вешаць сялян, высылаць іх сем'і.

У маі і чэрвені 1920 года белапольскія акупанты дажывалі апошнія мінуты свайго гаспадарання. Гераічныя палкі, дывізіі, карпусы Чырвонай арміі, ушчэнт разграміўшыя ворага на поўдні, у Сібіры, на Урале, былі перакінуты на Заходні фронт для барацьбы з белапольскімі акупантамі. Чырвоная армія, створаная **Леніным** і **Сталіным**, загартаваная ў барацьбе з Дзянікіным, Калчаком, Юдзенічам і чэхаславацкімі бандамі, згуртаванымі радамі ішла ў наступленне на белапольскіх акупантаў. У перамогах Чырвонай арміі немалую ролю адыгралі бальшэвіцкія газеты, натхняўшыя чырвоных байцоў і працоўнае насельніцтва акупаваных мясцовасцей, якое дапамагала Чырвонай арміі, на гераічную барацьбу, на новыя перамогі.

Помніцца мне **«Красноармейская роста»**—друкаваная насценная газета — выданне Заходняга фронта. У часе вайны з белапалякамі «Красноармейская

КРАСНАЯ ЗВЕЗДА

№ 129 (313) Понедельник, 7 июня 1920 года.

Польская шляхта разочаровалась в победе над Красной Россией.
Чтобы излить свою бессильную злобу, она зверски расправляется с безоружным населением.
Своей артиллерией она сожгла город Борисов.
800 мирных граждан—мужчин, женщин и детей—погибли в огне и развалинах.
10.000 ... людей остались без крова и куска хлеба.
Товарищи красноармейцы! Допустим ли мы, чтобы участь Борисова подверглась вся Россия?
Нет, не допустим! Невинные жертвы требуют мести.
Вперед! Уничтожим подлых гадов-убийц и поджигателей!

Изверги рода человеческого.

Нумар „Красной звезды"—газеты палітаддзела рэввоенсовета 15 арміі за 7 ліпеня 1920 года. Нумар заклікае змагацца з польскай шляхтай, якая спаліла горад Барысаў.

роста» была арганізатарам і агітатарам, узнімаўшым баявы дух байцоў, камандзіраў і палітработнікаў Заходняга фронта. Яна апісвала барацьбу і жыццё Чырвонай арміі, выхоўвала кожнага байца, дапамагала мясцоваму насельніцтву тыла зразумець усю сур'ёзнасць нашай барацьбы з белапольскімі акупантамі. Яна мабілізоўвала на барацьбу з дэзертырствам, з бандытызмам у тылу, дапамагала рэўкомам у іх рабоце.

З кожным днём рос партызанскі рух у акупаваных белапалякамі Беларусі. Партызанскія і чырвонагвардзейскія атрады пачалі вайну супроць палякаў. У газеце «Красноармейская роста» паведамлялася, што ў Менску штодзенна палякі расстрэльваюць дзесяткамі паўстаўшых. Газета паведамляе аб тым, што нашымі партызанскімі атрадамі і паўстанцамі ў тылу працiўніка ўзарваны масты, пасажырскі рух і рух эшалонаў у напрамку Менск — Беласток спыніўся.

2 ліпеня ў сваім перадавым артыкуле «Красноармейская роста», паведамляючы аб партызанскай барацьбе, аб паўстаннях у акупаваных белапалякамі мясцовасцях, пісала: «Чырвоная Беларусь ідзе ў нагу з рускім працоўным і працоўнымі ўсяго свету».

Лозунгам нашага паходу супроць белапольскіх акупантаў, — пісала газета, — з'яўляецца — «вызваліць ад белапольскіх паноў не толькі рускія землі, але і Польшчу». «Ударым па Варшаве!».

На старонках «Красноармейской росты» расказвалася аб жудасных здзеках белапольскіх акупантаў над працоўным насельніцтвам. Яе артыкулы прачытваліся на мітынгах чырвонаармейцаў, на мітынгах сялян у вёсках. Калі газета паведаміла, што белапалякамі спален Барысаў, спалены і разграблены такія‑та вёскі, чырвонаармейцы і камандзіры на мітынгах выносілі сваё рашэнне аб правядзенні збораў у дапамогу пацярпеўшым ад пажараў, грабяжоў і здзекаў белапольскіх акупантаў.

Адначасова газета паведамляла аб той рабоце, якую савецкая ўлада праводзіць па забеспячэнню сем'яў чырвонаармейцаў і чырвоных партызан. 2‑гі Смаленскі губернскі з'езд собезаў вынес рашэнне забяспечыць усе сем'і чырвонаармейцаў харчамі і іншымі відамі матэрыяльнай дапамогі. На з'ездзе работнікаў асветы ў гор. Сянно было прынята рашэнне аб культурным абслугоўванні сем'яў чырвонаармейцаў і дапамозе ім у ліквідацыі няграматнасці.

Такія паведамленні газеты ўзнімалі дух байцоў, падбадзёрвалі іх, натхнялі на гераічную барацьбу з акупантамі.

Газета абагульняла матэрыялы і паказвала разлажэнне польскай арміі. Газета друкавала вытрымкі з пісьмаў салдат польскай арміі да сваіх сем'яў. Яны пісалі, што ваяваць не хочуць, што ім няма за што ваяваць, што яны ідуць на смерць не самі, а што іх гоніць у бой буржуазія, памешчыкі і кулакі.

Чырвонаармейскі друк тварыўся самімі байцамі. Дзесяткі і сотні байцоў, камандзіраў і палітработнікаў прымалі ўдзел у ім сваімі допісамі, расказамі. Пісаў у газету і я. Памятаю, напісаў я некалькі артыкулаў аб тым, як мы выканалі адну з баявых аперацый. Гэтыя артыкулы былі змешчаны ў газеце **«Красный фронтовик»**. Я тады быў малаграматным і не мог лагічна выказаць



Proletarjusze wszystkich krajów, łączcie się!

**BILET WEJŚCIA**
**do**
**Rosyjskiej Socjalistycznej Federacyjnej Republiki Sowieckiej.**

[illegible]

Bilet ten jest ważny do dnia 15 Lipca 1920 r.

[illegible]

Wydział Polityczny Rady Wojenno-Rewolucyjnej Armji XVI-ej.

**ПРОПУСК**
**в Российскую Социалистическую Федеративную Советскую Республику.**

Всякий командир, комиссар и красноармеец обязаны встретить **по братски** польского солдата, предъявившего сей пропуск [illegible]

Деньги и вещи не подлежат конфискации.

[illegible]

**Лістоўка-пропуск, якая распаўсюджвалася ў тыле белапалякаў. Пропуск гарантаваў кожнаму салдату польскай арміі поўную недатыкальнасць пры пераходзе ў Чырвоную армію.**

Пролетарии всех стран, соединяйтесь!

# КРАСНОАРМЕЕЦ

Ежедневная газета Политотдела Реввоенсовета 16 армии.

## ВПЕРЕД—НА МИНСК!

## ПРИКАЗ 16-й АРМИИ.

Г. Могилев. № 812-132 6 июля 1920 г.

КРАСНЫЕ БОЙЦЫ 16-Й АРМИИ!

Армии Западного Фронта переходят в наступление.

ПОБЕДА В ВАШИХ РУКАХ! Штыками сметем неприятеля и проложим себе дорогу на Минск, НА ЗАПАД—ПОБЕДИМ!

ВПЕРЕД, ТОВАРИЩИ, РАВНЕНИЕ ПО ПЕРЕДНИМ!

**Штодзенная газета «Красноармеец за 6 ліпеня 1920 года з загадам 16 арміі аб наступленні на Менск.**

сваю думку. На матэрыялах газет, якія мы атрымлівалі, я вучыўся пісаць. Такіх, як я, было многа. Газета «Красноармейская роста» са змешчаным артыкулам нашага байца, камандзіра або палітработніка ў нашай часці сустракалася з радасцю, энтузіязмам, як вялікая падзея. Захаваўся ў мяне і цяпер адзін верш нашага байца, змешчаны ў газеце «Красноармейская роста» ў нумары 64 ад 2 ліпеня 1920 г. Гэты верш быў названы так: «Бяруць у смычкі». «У Беларусі паўстанне супроць белапалякаў».

**Еще польска не згинэла,**
**Но теперь, пан, трусь:**
**Покраснела, покраснела**
**Наша Белорусь.**
**Покраснела, — того мало,**
**А какой вдруг пыл.**
**Чем попало, чем попало**
**Лупи пана в тыл.**
**Прет безудержу с востока**
**Красный большевик.**
**Больно боку, больно боку:**
**То — приклад, то—штык.**
**Белоруссы—партизаны**
**Что ни хлоп, то—хлоп:**
**Проше пана, проше пана,**
**Бьют и в тыл и в лоб.**

Гэта верш аднаго байца з гераічнай масы чырвонаармейцаў, якія з энтузіязмам ішлі на бязлітасны бой з белапольскімі акупантамі. Гэта толькі адзін яркі малюнак творчасці нашых байцоў. А іх былі тысячы. Яны павінны быць адноўлены ў памяці працоўных, у памяці нашых дзяцей, нашых сясцёр, нашых братоў, як помнік вялікіх дзён барацьбы Чырвонай арміі, чырвонагвардзейскіх і чырвонапартызанскіх атрадаў з белапольскімі акупантамі.

## Кто виновен в том, что война продолжается?

Земля может принадлежать лишь трудовому народу, на ней живущему—и никому больше!

Польские белогвардейцы предлагают нам не мир, а угнетение и позор.

Штык и винтовка в руках красных бойцов сделают свое дело.

Политический отдел Реввоенсовета 16-й армии.

**Лістоўка «Кто виновен в том, что война продолжается», выданая палітаддзелам рэввоенсовета 16 арміі.**

---

**А. МАТУСЕВІЧ**

# Бальшэвіцкі друк тых дзён




«Рабоче-крестьянский путь» — орган барысаўскай павятовай парттройкі і павятовага рэвкома і газета «Бедняк» — орган Барысаўскага павятовага выканаўчага камітэта рабоча-сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў.

1919 год. Белапалякі захвацілі горад Барысаў і вакольныя вёскі. Следам за рэгулярнымі вайсковымі часцямі з'явіліся карныя атрады, жандармерыя. Пачалася расправа буржуазіі над рабочымі Барысава, над вясковай беднатой.

Беднату тэрарызавалі за разабраную ў першыя дні савецкай улады жывёлу, за падзеленую зямлю графаў Тышкевічаў і буйных землеўласнікаў Ваньковічаў. Ад беднаты вымагалі:

— Вярнуць пану зямлю, вярнуць жывёлу.

У Барысаве кідалі ў турмы рабочых, западозраных у спачуванні бальшэвікам, ва ўдзеле ў рабочых дружынах, якія дапамагалі абараняць горад ад белапалякаў. Армія жандараў снавала па вуліцах і завулках.

## У ПАДПОЛЛІ ЗАІСКРЫЛАСЯ ЖЫЦЦЁ.

Тав. **Ю. Элькінд,** які зараз працуе на адказнай палітычнай рабоце на МББ чыгунцы, успамінае, як у кастрычніку 1919 г., ва ўмовах тэрору і гвалту белапалякаў, стварылася ў горадзе падпольная група комуністаў. Разам з комуністамі пашлі ў падполле комсамольцы і беспартыйная комуністычна настроеная моладзь. Яны разгарнулі прапаганду сярод раскватараваных у горадзе белапольскіх салдат, рабочых горада і сялян вакольных вёсак.

Члены падпольнай групы пачалі наладжваць чытку комуністычнай літаратуры. Але што чытаць? У кіраўніка падпольнага камітэта тав. Элькінда не аказалася ніякага запасу літаратуры. Была толькі адна брашурка аб комсамоле Літвы і Беларусі ды некалькі комуністычных лістовак і адозваў.

На нарадзе групы рашылі накіраваць за літаратурай двух чалавек у Крупкі. Паслалі тт. **Савельзон і Клябанаву.** Два дні яны ішлі ў Крупкі, туляючыся па загор'ю. І вось 2 пуды рознай комуністычнай літаратуры атрымана. Пасланцы ідуць назад у Барысаў. Хаваючыся па хмызняках і балотах ад праследвання жандараў і шпікоў, маладыя падпольшчыцы даставілі літаратуру ва ўмоўленае месца.

Уплыў падпольнай комуністычнай групы на працоўнае насельніцтва з кожным днём узрастаў. З'явілася неабходнасць папаўнення запасаў комуністычнай літаратуры за кошт друкавання на шапірографе лістовак і пракламацый. Тав. Элькінд расказвае пра адвагу маладых хлапцоў, якія пад носам у жандармерыі наладзілі друкаванне адозваў на шапірографе.

Было гэта на кватэры маладога падпольшчыка тав. **Розенблюма.** Толькі

што пачалі друкаваць лістоўкі. Раптам трывога. У суседняй кватэры з'явіліся жандары. Пакуль яны абшуквалі суседнія пакоі, падпольшчыкі знішчылі ўсе сляды сваёй работы і стварылі ўражанне, нібы яны рыхтуюцца да экзаменаў.

Быў і такі выпадак. Тав. Элькінду ўдалося нейкім чынам украсці ў кватараваўшага ў іх доме польскага афіцэра некалькі комуністычных лістовак. Гэтыя лістоўкі раскідваліся большэвікамі ў раёне размяшчэння польскіх войск. На гэты раз лістоўкам не давялося трапіць да свайго спажыўца—радавога польскага салдата. Лістоўкі былі падабраны афіцэрамі. Тав. Элькінд скраў іх. І праз некалькі дзён гэтыя лістоўкі і адозвы, разам з дзесяткамі перадрукаваных з іх копій, ужо распаўсюджваліся па гораду, сярод раскватараваных белапольскіх часцей.

## ЗА СУТКІ АДНАВІЦЬ ДРУКАРНЮ.

Прышоў 1920 год. Вясна. Над Стара-Барысавам яшчэ рвуцца знарады апошніх стрэлаў белапольскіх гармат. Яшчэ тлеюць папялішчы аграбленага і спаленага горада, а ў глыбокім падпольі старыя друкары ўжо гутараць аб шрыфтах, аб захаванні станкоў і стварэнні паліграфбазы для будучых большэвіцкіх газет.

Горача адгукнуліся на заклік падпольнай комуністычнай групы тт. **Левін і Капілевіч**—маладыя друкары невялічкай саматужнай друкарні Шэйнемана. З юнацкім запалам яны ўзяліся за выданне невялічкай адозвы да рабочай моладзі Барысава.

Пад націскам Чырвонай арміі, пры актыўнай дапамозе чырвоных партызан, горад Барысаў ачышчан ад белапалякаў. Пачалі фармавацца органы Совецкай улады і паўстала задача неадкладнага выпуску мясцовай большэвіцкай газеты.

Прадстаўнік соўнархоза сабраў некалькі наборшчыкаў і друкароў з былых невялікіх прыватных друкарань горада і даў дырэктыву:

— За суткі аднавіць друкарню Шэйнемана.

Накіраваліся ў друкарню. Аказалася, яна ўшчэнт зруйнавана белапалякамі пры адступленні. Жыхары суседніх двароў расказалі, як белапалякі раскідалі па ўсёй друкарні шрыфт, як потым цягалі ў пяміешканне салому і ставілі коней. Коні прастаялі дзень-два і ад друкарні не асталося ніякага следу.

**С. Шмідт** і **С. Альшыц**—старэйшыя наборшчыкі Барысава, якія і па сённяшні працуюць у друкарні раённай газеты, пакапаліся ў гнаі і знайшлі некалькі літар. Паглядзелі глыбей—знайшлі больш. І так за суткі, выбіраючы па аднэй літары, сабралі частку шрыфта. База для выдання газеты была на палову створана.

## ДНІ І СПРАВЫ ГАЗЕТЫ «БЕДНЯК»

Перад намі пажоўклыя разрозненыя нумары газеты **«Бедняк»**—органа Барысаўскага павятовага рэўкома. Далей **«Известия»**, **«Рабоче-крестьянский путь»**, **«Партлисток»**, **«Юная мысль»**. Вось газета **«Коммунистический труд»** —орган павятовага бюро профсаюзаў. Яна—прадукт арганізуемых у друкарні штотыднёвых суботнікаў. Газета на працягу 2 год набіралася і друкавалася дармова. Вось выдаваемы ў Барысаве ў 1920 годзе літаратурна-палітычны журнал **«Заря молодежи»**. А вось і газета нямецкай комуністычнай групы ўсходняй арміі—**«Дэр ротэ зольдат»**. 8 назваў васьмі большэвіцкіх газет, што выдаваліся ў Барысаве ў 1918—1922 **г.г.**

Спынімся на газеце «Бедняк». Чатыры невялічкія старонкі, тоўстая жоўтая папера, небагатае паліграфічнае афармленне. Але якім палкім агнём большэвіцкай праўды і нянавісці да класавага ворага гарыць кожнае слова.

Краіна толькі што пачала залечваць раны імперыялістычнай і грамадзянскай вайны, раны, нанесеныя белапольскай акупацыяй. «Бедняк» яшчэ заклікае працоўнае сялянства на ліквідацыю астаткаў белагвардзейскіх армій і бандыцкіх гнёзд на заходніх межах Совецкіх Рэспублік. Газета заклікае «дапамагаць Чырвонай арміі», «ачышчаць лясы ад бандытаў і дэзертыраў». Газета друкуе прыгаворы судоў над злоснымі дэзертырамі, папярэджвае ўсіх, хто ўкрывае бандытаў.

Але адначасова ў «Бедняку» пачынаюць з'яўляцца заметкі, якія ілюструюць палітычнае і культурнае жыццё павета. «Аб клубе», «Валасная беспартыйная канферэнцыя», «Аб дапамозе сельскай гаспадарцы», «Дармовыя вядомашчы», «Аб нашай клубнай рабоце», «Работа Данецкага басейна», «Грамадс-

кія гароды», «Жыццё па-новаму»— вось толькі невялічкі пералік заметак «Бедняка», які даволі характарызуе круг пытанняў, узнімаемых газетай ужо ў першыя дні пасля ліквідацыі белапольскага фронта.

Люты 1921 года. Газета мабілізуе працоўнае сялянства на сустрэчу першай сяўбы ва ўмовах мірнага жыцця краіны.

**«Страшная вайна за вызваленне рабочых і сялян ад улады паноў і гандляроў-купцоў скончана. Гэта вайна знішчыла значную частку сялянскага інвентару і сельскагаспадарчых машын. Акупанты захвацілі і вывезлі многа коней, калёс і іншага інвентару...**

**Сельскаму выканаўчаму камітэту трэба ведаць, колькі неабходна насення і колькі чаго засеяць. Сяляне-ж павінны прыйсці свайму выканкому на дапамогу. Задача часу заключаецца ва ўзняцці вытворчасці як у вёсцы, так і ў горадзе».**

Газета спыняецца на велізарнай ролі ў веснавой сяўбе існаваўшых у той час пасеўных камітэтаў, выступае на абарону бедняка ад міраеда-кулака.

**«Улада рабоча-сялянская не можа дапусціць, каб бедныя сяляне не засеялі свайго поля, каб удовы і чырвонаармейкі былі пакінуты без дапамогі і падтрымання, каб маламоцныя сяляне звярачаліся да багацеяў і спекулянтаў за дапамогай і пападалі ў іх кабалу... Пасеўныя камітэты будуць клапаціцца дапамагчы сялянству засеяць свае палі, апрацаваць свае гароды, палепшыць садоўніцтва».**

Прамысловым цэнтрам і транспарту не хапае паліва. Уся рэспубліка ўключылася ў паход за дровы. «Бедняк» зварачаецца да працоўнага сялянства з заклікам:

**«На баявым фронце грамадзянскай вайны, вы, сяляне, паказалі сваю сілу і моц рэвалюцыйнага народу перад тварам крывавых драпежнікаў усяго свету, перад тварам памешчыкаў і польскіх паноў. Але вось другі вораг незаметна падкраўся і гатоў замарыць голадам усю краіну, — гэта недахват паліва на чыгунцы.**

**Каля чыгунак у лесе загатоўлена вельмі многа дроў, трэба толькі вывезці гэты апал з лесу і даць яго чыгунцы. Совецкая ўлада абавязвае вас, грамадзяне вёскі, напружыць усе сілы на вывазку дроў».**

**
*

Рознастайнасць тэматыкі, актуальнасць пытанняў і аператыўнасць заметак «Бедняка» — усё гэта рабіла газету масавай, папулярнай. Ужо ў 1920 г. у газеце «Бедняк» быў уведзен пастаянны аддзел **«Партыйнае жыццё».** Час-ад-часу змяшчаліся фельетоны на мясцовыя тэмы, цэлыя старонкі, а часамі і больш, займалі пісьмы рабселькораў.

Газета з нумара ў нумар змяшчала аператыўную зводку з фронта **«Красный фронт».** Але гэта ніколькі не перашкаджала газеце ў тых-жа нумарах гаварыць аб адкрыцці новых хат-чытален аб дзіцячых яслях, аб школах.

Газета ўжо тады друкавала **«Куток жанчыны-работніцы»** і адну са сваіх старонак адводзіла для рэгулярнай **«Старонкі моладзі».**

«Моладзь прачнулася ад сну, у які была загнана гнётам польскай шляхты і шырокай хваляй хлынула ў саюз», — пісаў «Бедняк», пачынаючы выданне «Старонкі моладзі».

**
*

Прайшло 15 год. Пад бальшэвіцкім кіраўніцтвам ленінскай партыі працоўныя Барысаўшчыны дабіліся велізарных гаспадарчых і культурных перамог. Спалены і зруйнаваны белапольскімі акупантамі Барысаў вырас у буйны прамысловы горад Совецкай Беларусі. Звыш дзесяці новых фабрык і заводаў, дзесяткі сярэдніх беларускіх, польскіх і яўрэйскіх школ, індустрыяльны, сельскагаспадарчы і педагагічны тэхнікумы — краса і гонар сёнешняга Барысава. Правільнае ажыццяўленне ленінскай нацыянальнай палітыкі спрые быстраму росту культуры ўсіх працоўных,, якія насяляюць Барысаўшчыну.

На руінах і папялішчах вырас новы совецкі Барысаў. Пад кіраўніцтвам ленінскай партыі рабочыя, калгаснікі і ўсе працоўныя Барысаўшчыны будуюць новае, радаснае жыццё, змагаюцца за новыя перамогі свайго раёна — аднаго з перадавых раёнаў ордэнаносная БССР.

# *ДЗЕМ'ЯН БЕДНЫ АБ БЕЛАПАЛЯКАХ*

★ ★ ★ **Міх. БЕКНЕР** ★ ★ ★

**Дзем'ян Бедны**—наш да апошняй крывінкі, пролетарскі паэт. Яго заслугі перад совецкай літаратурай выключна вялікія. У яго асобе «паэзия магчыма ўпершыню ў гісторыі так ярка звязала свой лёс з лёсам чалавецтва, якое змагаецца за сваё вызваленне» (са звароту ВЦВК да Дзем'яна Беднага ў сувязі з узнагародай яго ордэнам Чырвонага сцяга).

Баявое значэнне работы Д. Беднага было асабліва відавочным у гады грамадзянскай вайны. Дзем'ян Бедны аб'ездзіў чуць не ўсе франты і ў патрэбны момант умеў натхніць нашых байцоў смелай падбадзёрваючай песняй, заклікам да выканання абавязку, самой сваёй прысутнасцю.

Чым тлумачыцца дзейснасць агітацыі Д. Беднага, яе незвычайная даходчывасць?

Па-першае, Дзем'ян адразу «хапіўся» за сутнасць з'явы, ён дабіраўся да яе сарцавіны, чотка характарызуючы яе палітычна.

Па-другое, класавую ленінскую праўду Дзем'ян аблякаў у яркую мастацкую форму, даступную мільёнам. Невыпадкова Дзем'ян Бедны такі блізкі к фальклору, к частушцы ў асаблівасці.

Захаваліся шматлікія сведчанні магутнага ўплыву Д. Беднага на яго чытачоў. І калі па словах Маякоўскага «паэзія—сцяг, верш—бомба», то паэзія Дзем'яна была і тым і другім. Вельмі навучальны вось гэты эпізод у выкладанні самога Дзем'яна.

«Мне ў часе наступлення Юдзеніча на Ленінград прышлося за некалькі гадзін падрыхтаваць песню, высмейваючую белагвардзейскія танкі. Прымаўшы па міжгародняму тэлефону маю песню таварыш сярод прыёму тэлефанаграмы гаварыў:

— Пад Лігавам гарматы бухаюць.

— Чутно ў рэдакцыі?
— Чутно.
А я зноў дыктую:
— Ванька, глянь-ка: танька, танька.
— Не уйдет от нас небось.
Как пальнет по таньке Ванька,
Танька, глядь, колеса врозь.

ДЕМЬЯН БЕДНЫЙ

Как пан послал польского мужика Яна
Убивать русского мужика Ивана,
И как Ян, сообща с Иваном,
Порешили расправиться с польским паном.



**Вершы Дзем'яна Беднага пра тое, «Как пан послал польского мужика Яна убивать русского мужика Ивана, и как Ян сообща с Иваном порешили расправиться с польским паном». Вершы, выданыя асобнай кніжкай, распаўсюджваліся на фронце.**

— Я наўмысна напісаў «Танька», «глядь», бо ведаў, што байцы абавязкова «глядь» у другое сугучнае слова пераробяць, у сваё значымае, абразліве і поўнае пагарды да баявых «та-

нек». Такі мой прыём не ўказан ніякімі кіраваннямі па паэтыцы, але ён быў апраўдан сваёй сапраўднасцю. Байцы смяяліся, бадзёрыліся і пёрлі на «танек». К паэтычнай рабоце ў поўнай меры прымяніма формула: мэта апраўдвае сродкі. Усе сродкі добрыя, калі яны добра ўплываюць на чытача, калі яны трапляюць у цэль».

Пранікаючы ў лагер белых, вершы Д. Беднага рабілі вялікае ўражанне на салдат. Аб гэтым красамоўна сведчыць выпадак, апісаны ў артыкуле аб творчасці Дзем'яна.

У часе наступлення Юдзеніча на Пецербург белымі быў занят адзін гарадок. Пры адступленні адтуль чырвоныя пакінулі—выпадкова ці наўмысна — грамафон з пласцінкамі песень Д. Беднага. Салдаты Юдзеніча дабраліся да пласцінак і... замест таго, каб з абурэннем разбіць іх або аддаць начальству, наладзілі падпольны большэвіцкі агітпункт. Завесілі шынелямі вокны, паставілі вартавых на вуліцы, каб раптоўна не награнулі афіцэры і атрымлівалі асалоду ад забароненай музыкі і паэзіі. А грамафон хрыплым басам павучаў:

**«Все — в ряды большевиков.**
**Собирай всех батраков.**
**Эх-ма!**
**Собирай всех батраков,**
**Напирай на кулаков.**
**Эх-ма!»**

Само сабой зразумела, наслухаўшыся такой паэзіі, салдаты не жадалі класці жыццё за «веру, цара і айчыну».

Побач з гэтым мы ведаем факты, калі асобныя «ніжнія чыны», пад уплывам паэзіі Дзем'яна Беднага здраджвалі белым і рашуча пераходзілі на бок чырвоных.


КРАСНОАРМЕЕЦ
МИНСК ВЗЯТ!
Вперед--на помощь польским рабочим!

**Штодзенная газета палітаддзела рэвваенсовета 16 арміі за 12 ліпеня 1920 года з паведамленнем, што «Минск взят».**

Дзем'ян Бедны напісаў вялікую колькасць твораў аб грамадзянскай вайне і рэволюцыі:

**«Вот веселыя, жывые**
**Вам частушки фронтовые.**
**Эх дуда, моя дуда**
**Подходи, народ, сюда!»**

І народ «падыходзіў», слухаў бойкія хлёсткія словы частушкі.

**«Эх, калина, эх малина!**
**Как Деникин то скотина**
**Ай люли, люли, люли,**
**Лезет, сволочь, в короли».**

Растлумачваючы значэнне таго ці іншага факта, умацоўваючы боездольнасць чырвонаармейскіх часцей і ўзнімаючы іх ваяўнічы дух, Дзем'ян Бедны зварачаўся таксама да «ніжніх чыноў» белагвардзейскіх банд.

Пры гэтым Дзем'ян Бедны пастаянна ўказваў на тое, што ніжнія чыны, адурманеныя панамі, сталі на фальшывы контррэволюцыйны шлях.

Гэтыя матывы мы выразна пачуем у вершах, прысвечаных панскай Польшчы. Разграмляючы польскіх паноў і іх саюзнікаў, заклікаючы чырвонаармейцаў да непрымірымай барацьбы з класавымі ворагамі, Дзем'ян Бедны зварачаўся і да ашуканых братоў па класу, заклікаючы іх стаць на абарону совецкай улады.

**«Хлопам надо торопиться**
**(Мой совет не так уж нов),**
**Чем с народом русским биться,**
**Надо бить своих панов.**
**Братья, крепко в толк возьмите,**
**Намотав себе на ус:**
**Мой рассказ о пане Кмите**
**Для панов—не сладкий кус.**
**Кмита панствует поныне,**
**Но паны поднимут вой:**
**Дескать в сейме и в помине**
**Нет фамилии такой.**
**Я панам не дам пакою,**
**Скажет мой правдивый стих,**
**Под фамилией какою**
**Кмита прячется у них?**
**Да один ли только Кмита?**
**Есть почище образцы.**
**Едет пан, за паном свита:**
**Все такие-ж подлецы.**
**Братья хлопы, злое зелье**
**Время выполоть сполна.**
**Шляхте пир, а вам похмелье,**
**Шляхте жир, а вам война.**

Бьетесь вы панам в угоду
А ведь счастье у дверей:
Только панскую породу
Уничтожьте поскорей.

У другім вершы, азаглаўленым «Покидайте, хлопы, панские окопы» Дзем'ян Бедны ўсклікае:

Хлопы! Польше милой
Чтобы не стать могилой,
Шляхту жгите.
Помогите
Вашей Польше милой.
Только с новой властью
Путь для Польши к счастью,
Не шляхетской,
А советской.
Вашей, хлопы, властью.

Паэт-масавік, паэт-трыбун, Дзем'ян добра разумее значэнне алегорыі і паэтычнага інасказання. Дзякуючы гэтаму прыёму, ідэі, правадзімыя Д. Бедным, станавіліся яшчэ больш канкрэтнымі і нагляднымі.

Вось перад намі «гісторыя пра польскага пана Ганорыя, пра няшчаснага халопа-паляка і пра віслінскага рака». Гэта вельмі павучальная гісторыя аб нікчэмным пане, які праз халопа дастае розныя благі.

Было так: халоп злавіў у Вісле рака з «вялізнай залатой кляшнёй». Рак

«Отпусти, говорит, меня в воду,
Дай мне жизнь, говорит, и свободу,
Если вновь меня в Вислу ты бросишь,
Дам я выкуп какой ты не спросишь».

І вось, дзякуючы гэтаму «віслінскаму» раку, халоп набыў для свайго «ймасць пана» велізарнае багацтва. У пана не было «прыстойнага вядра» для натуральных патрэб, але з дапамогай халопа ён дастаў дом, маёнтак і многа слугак. Але апетыт пана Ганорыя рос з кожным днём.

Отхватить мы должны у соседки
Все, на что наши зарились предки:
Всю Литву, Беларусь, Украину,
Пусть Москва перегнет тогда спину,
И послов присылает с повинной.

Але не суджана было ажыццёвіцца гэтай мары польскага пана:

Ему мерещится Москва,
Он вёл на нас панов ораву,










Плакаты паліткіраўніцтва рэвваенсовета рэспублікі, якія распаўсюджваліся ў дні грамадзянскай вайны, з'яўляліся магутнай зброяй у барацьбе з белапалякамі.

# ПЕРШЫЯ РЭДАКТАРЫ „ЗВЕЗДЫ“


Тав. КНОРЫН.


Тав. МЯСНІКОЎ.

---

Но мы сказали: «чорта с два!»
И чуть не в'ехали в Варшаву.
(«За Вислу»).

Пан Ганоры астаўся ля разбітага карыта. Сапраўднасць жорстка пасмяялася з яго «акупацыйных» планаў.

У гэтай выдатнай казцы вы пачуеце матыў пагарды да тых халопаў, якія гнуць перад панамі спіны і «цмокаюць панскія рукі». Дзем'ян Бедны кліча тых, «кто молод і честен»:

Встаньте, братья! Уж время приспело.
Поднимайтесь за правое дело,
За свободу рабочего люда,
Пусть погибнет Пилсудский-Иуда.
Он повёл вас дорогой ложной,
Он вас предал злой шайке
вельможной.
Пусть погибнут паны и подпанки,
Забирайте их земли и банки.
Власть навеки пусть згинет
шляхетская,
И да здравствует Польша советская!

Узрыўчатай сілай уладаюць вершы Дзем'яна Беднага. Гэта «грамавая» паэзія, насычаная найвялікшым рэволюцыйным запалам.

Неабходна заўважыць, што вершы аб «белай Польшчы» адносяцца да ліку лепшых твораў, напісаных Д. Бедным у баявой абстаноўцы грамадзянскай вайны. Дзем'ян Бедны ідзе ў гэтых вершах па лініі абагульнення. Яго **Кміта** —яркі закончаны тып, увасабляючы сабой найбольш характэрныя рысы польскага панства (і ўсёй контррэволюцыйнай буржуазіі). Вялікай абагульненай сілай адрозніваецца вобраз халопа.

Прыгожыя, з вялікай выразнасцю і незвычайнай сілай большэвіцкай логікі, вершы Дзем'яна Беднага зрабілі сваю гістарычную справу. Яны дапамагалі актыўна змагацца з белапольскімі акупантамі, з ворагамі рабочага класа. І сёння, успамінаючы гераічную барацьбу працоўных за вызваленне Беларусі ад белапалякаў, хочацца сказаць Дзем'яну імем яго чытачоў:

— Дзякуй, паэт. Мы памятаем і цэнім тваю работу, выключную па сваймy размаху і гістарычнаму значэнню. Перачытваючы твае вершы аб грамадзянскай вайне, мы яшчэ і яшчэ раз пранікаемся замілаваннем і ўдзячнасцю да правадыроў нашай партыі **Леніна** і **Сталіна**, якія ператварылі Расію—гэту велізарную ў мінулым «турму народаў» — у квітнеючы оазіс соцыялістычнага будаўніцтва.

# Расказ старога метранпажа



Гдаля **Эйдэльман** — старэйшы метранпаж «Звязды». 9 жніўня 1932 года—у дзень 15-гадовага юбілея «Звязды» — тав. Эйдэльман разам з другім старэйшым наборшчыкам тав. **Анташкевічам** узнагароджаны ордэнам Чырвонага працоўнага сцяга. Свой пятнаццацігадовы юбілей, як старэйшага метранпажа «Звязды», тав. Эйдэльман адзначыў тады ўступленнем у рады КП(б)Б.

Заглянем у мінулае, у дні, калі «Звязда» — орган ЦК КП(б)Б — набіралася ў адным невялічкім пакоі былой земскай друкарні, калі яна вярсталася пры звычайнай газоўцы ці свечках, або пры святле распаленых абрыўкаў паперы.

Студзень 1918 года. Дырэктар паліграфтрэста тав. **Стронгін** звярнуўся к наборшчыку друкарні Тасьмана тав. Эйдэльману з прапановай пайсці вярстаць большэвіцкую «Звязду». Умовы работы былі надзвычайна цяжкія. Без абсталявання, пры адсутнасці неабходных шрыфтаў і нармальнага асвятлення, 10 чалавек пачыналі ў невялічкім пакоі работу па выпуску большэвіцкай газеты. У той час ніхто не ведаў, што такое машынны набор газеты, што такое ратацыйная друкарская машына. «Звязда» набіралася ручным спосабам, збітымі шрыфтамі, друкавалася на плоскай машыне, тыраж газеты не перавышаў 8 тыс. экземпляраў.

Тав. Эйдэльман стаў метранпажам. Ён адчуў у гэтым новым прызначэнні і пачуццё вялікай адказнасці і разам з тым пачуццё нейкай самазадаволенасці.

— Гдалю Эйдэльману даручылі вярстаць большэвіцкую «Звязду» — гаварылі рабочыя.

І часта ў 3 і 4 гадзіны раніцы можна было заўважыць, як у невялічкім адведзеным для «Звязды» пакоі былой земскай друкарні загараліся агенькі. Адзін з наборшчыкаў «Звязды» браў некалькі старых газет, запальваў іх каля дагараўшай свечкі і свяціў тав. Эйдэльману, які давёрстваў аддзел «Последние известия».

Вёрстка і праўка палос скончана. Газета пашла на машыну. Тав. Эйдэльман бярэ свежы нумар, бегла акідвае вокам якасць друку і яшчэ раз правеpыўшы ці ёсць выданы камендантам горада пропуск на права хадзьбы па вуліцы да 6 гадзін раніцы, накіроўваецца на кватэру.

***

Прышоў 1919 год. Менск акружаюць белапалякі. Ужо чутно, як за Пярэспай трашчаць кулямёты. Але не спыняецца работа па выпуску большэвіцкай «Звязды». У невялічкім пакоі сёпешняга Дома працы ідзе спешная вёрстка. Ля маленькага стала стаіць метранпаж тав. Эйдэльман і хутка вымярае гранкі. Зараз дорага кожная мінута. Зараз не будзе ніякіх тэхнічных пераробак у паласе. Бо фронт за Пярэспай, бо ўпочы чырвонаармейцы адступаючых часцей павінны быць падбадзёраны большэвіцкай «Звяздой».

Тав. Эйдэльман успамінае: — Было гэта ў чацвер. Лінія фронта прыблізілася к самаму Менску. Ужо чутно, як за Татарскай слабадой ідзе перастрэлка. А ў невялічкім наборным цэху спешна афармляецца «Звязда». У 4 гадзіны почы скончылі вёрстку і праўку. Газета пашла на машыну. Узяўшы адзін свежы нумар газеты з машыны, я накіраваўся дахаты. Спусціўся ўніз па Савецкай вуліцы, іду на мост. Раптам адкуль не вазьміся, выскакваюць белапалякі.

— Стой!

Я стаў. Падняў рукі ўверх і чакаю. І вось падбягае некалькі пазнанцаў і давай абшукваць мяне. Знайшлі свежы нумар «Звязды», пакруцілі яе ў руках і нешта шэпчуць па-польску. А мне сказалі, што я большэвіцкі агітатар і што са мной зараз-жа расправяцца, укінуць у рэчку. І толькі шчаслівы выпадак выратаваў мяне. Міма імчаўся польскі афіцэр. Ён паклікаў да сябе салдат і загадаў неадкладна заняць новы пост. Я-ж тым часам павярнуў у завулак і, ледзь пераводзячы дыханне, дабраўся да кватэры.

* * *

Тав. Эйдэльман успамінае, як пры яго актыўнай дапамозе выдаваўся першы нумар «Звязды» пасля белапольскай акупацыі. Пад націскам Чырвонай арміі і акружаўшых Менск чырвоных партызан 11 ліпеня белапалякі пакінулі сталіцу Совецкай Беларусі. У спешным парадку ўдарная група з некалькіх старых наборшчыкаў і друкароў пачала мабілізоўваць шрыфты. У ліку іх і тав. Эйдэльман. Аб'ехалі некалькі прыватных друкарань, сабралі астаткі ўцалеўшых ад акупантаў кас з шрыфтамі і на другі дзень чырвонаармейцы і працоўнае насельніцтва Менска ўжо чытала двухпалосны нумар «Звязды».

* * *

Прайшло 15 год з дня вызвалення Совецкай Беларусі ад белапалякаў. Тав. Эйдэльман — адзін з старэйшых метранпажаў «Звязды» — святкуе сваё падвойнае свята. Прайшло 15 год, як ён разам з мільёнамі працоўных Совецкай Беларусі вызваліўся ад ярма белапольскай акупацыі. Мінула 18 год, як тав. Эйдэльман працуе ў «Звяздзе» ў якасці метранпажа.

Сёння тав. Эйдэльман выконвае абавязкі начнога адміністратара друкарні. І позна ўночы, абходзячы новыя цэхі друкарні, абсталяваныя навейшымі машынамі, тав. Эйдэльман параўноўвае паліграфічную базу «Звязды» з тым, што было 18 год назад. Быў невялічкі пакойчык, стаяла некалькі малых касак, з боку столік для вёрсткі «Звязды». Газета друкавалася на плоскай машыне, тыраж яе не перавышаў 8 тысяч.

Прайшло тры пяцігодкі. Расла, пад кіраўніцтвам ленінскай партыі Совецкая Беларусь, расла яе прамысловасць і сельская гаспадарка. І ад старой невялічкай каморкі, дзе набіралася «Звязда», не асталося і следу. Сёння друкарня «Звязды» — гэта буйны ва ўмовах БССР паліграфічны камбінат з 6-цю лінатыпамі, са сваёй цынкаграфіяй, з 2 ратацыйнымі машынамі, 27 тысяч адбіткаў у гадзіну — вось паказальнікі росту паліграфічнай базы «Звязды». 92 тысячы падпісчыкаў — сведка непарыўнай сувязі большэвіцкай газеты з масамі.

**ДРУКАРНЯ «ЗВЯЗДЫ» СЁННЯ.**

Унізе: работа наборнай машыны «лінатып» справа: новая совецкая ратацыйная машына, якая друкуе ў 1 гадзіну да 27 тыс. экз. «Звязды».





# Жывая памяць
## аб белапольскай акупацыі

**М. САКАЛОЎСКІ**



—Ёя ляжыць запухшай нагой, якую трэба ампутываць, ціха стогне. Стогн вырываецца паміма волі.

— А тады мацней балела і не стагнаў. Старасць, ліха яе бяры,—вінавата кажа ён.

Стары расказвае нам аб нядаўным мінулым. Яго расказ—гэта ўрывак аповесці аб барацьбе рабочых і сялян з белапалякамі за ўладу рабочых і сялян, за савецкую Беларусь.

Сын **Цішкевіча** Емяльяна Міхайлавіча—Максім у 1920 г. быў партызанам. У пералеску, што недалёка ад м. Грэска, збіраліся партызаны абгаварваць планы барацьбы з белапалякамі, зносілі зброю, распаўсюджвалі большэвіцкую літаратуру. Папракаў спачатку стары Цішкевіч сына, што ён уцягнуўся ў небяспечную справу. Але пачалі гаспадарыць паны, здзекавацца над рабочымі і сялянамі, забіралі белапалякі апошнюю маемасць і незаметна Цішкевіч Емяльян сам стаў спачуваць партызанам. І калі аднойчы сын Максім сабраўся расклейваць лістоўкі, бацька сказаў яму:

— Цяжка быць няграматнаму, а ну прачытай, сынку, што ў ёй напісана.

І сын прачытаў яму большэвіцкую адозву. Прагна лавіў стары кожнае слова. А калі скончыў чытаць сын і сабраўся ісці расклейваць, спыніў яго бацька:

— Пачакай, сынку, адозвы расклею сам я. Ты і так у іх на падазрэнні.

Надзеў рваную шынельку, набраў запазуху адозваў і стаў расклейваць. І нейкі задор узяў старога. Наклеіў іх нават на камендатуры, якая знаходзілася там, дзе зараз зммяшчаецца пошта.

— Чыста выканаў работу,—успамінае Цішкевіч Емяльян,—задаволены быў сын і яго таварышы партызаны. Быў маленькі брак у маёй рабоце—няграматны, некаторыя адозвы наклеіў дагары. Але іх усё роўна ўкрадкі чыталі. Пісалася ў адозве, каб нічога не даваць белапалякам, не плаціць ніякіх падаткаў і збораў. Тады я ўжо ўбачыў, якая вялікая сіла большэвіцкі друк. Гэтыя адозвы так загітавалі сялян, што яны пачалі ўсё хаваць ад белапалякаў, а самі хаваліся ў лесе, бо іх прымушалі сілай аддаваць сваё дабро .

Цішкевіч застагнаў і змоўк. Памаўчаўшы сказаў:

— Пасля гэтага партызаны больш сталі давяраць мне. Ведаў я, дзе давалася літаратура, зброя. А потым...

Слёзы замутнілі вочы старога, калі ён пачаў расказваць як растралялі белапалякі Максіма ў ліку 14 партызан, як арыштавалі яго самаго.

— Арыштавалі сына, услед забралі і мяне. Павялі на ток і білі шампаламі па пятках. Потым прымушалі хадзіць па халоднаму таку, каб не заметны былі пабоі і зноў білі да непрытомнасці. Білі так, што аж польскія салдаты плакалі. А мне тады было 50 год. Выбілі 5 зубоў. Але нічога з мяне невыбілі , нічога я не сказаў, хоць і многа ведаў. З таго часу баляць мае ногі, а зараз во як распухла нага,—паказвае ён і дадае:

— Гэта ўсё жывая памяць аб белапольскай акупацыі. Але не дарма змагаўся я, не дарма загінуў сын і тысячы сыноў працоўнага народу. Расце і квітнее сопыялістычная радзіма, заможнымі становяцца калгаснікі ў большэвіцкіх **калгасах.**

ДУБОВІЧ І. Д. — чырвоны партызан — рабочы соўгаса «Праўда».

# Мяне натхняла большэвіцкая партыя і яе друк

Наш партызанскі атрад аператаў да прыходу Чырвонай арміі ў раёне Капыля, Грозава, Цімкавіч і Раманава (зараз Леніна). Мой абавязак быў—наладжваць сувязь паміж асобнымі групамі нашага атрада і другімі партызанскімі атрадамі. Прыходзілася займацца і дастаўкай у атрад большэвіцкай літаратуры, і распаўсюджваннем яе сярод насельніцтва.

Многа мы даставалі большэвіцкай літаратуры. Аднак, попыт на яе быў такі вялікі, што не мог задаволіць мінімальныя запатрабаванні. Тады ў в. Ванелевічы, Капыльскага раёна, мы дасталі машынку і захавалі яе ў доме партызана-комуніста т. **Салагуба.** На ёй перадрукоўваліся лістоўкі, адозвы, калі іх было мала экземпляраў, затым мы расклейвалі іх і раскідвалі ў людных мясцах.

З прагнасцю чыталі працоўныя гэту літаратуру, якая заклікала да звяржэння панскай улады, хоць за чытанне яе белапалякі праследвалі амаль так, як за распаўсюджванне.

Тав. **Леўша, Ясючэня** Максім, **Ясючэня** Міхаіл і інш. (зараз калгаснікі м. Леніна) былі арыштаваны і папрабавалі белапольскіх бізуноў толькі за тое, што іх злавілі за чытаннем большэвіцкіх лістовак.

Многа нам дапамагла машынка для распаўсюджання большэвіцкіх адозваў, лістовак, пракламацый. Але быў такі выпадак, што мы ледзь не страцілі яе. Аднойчы, калі я толькі вышаў з дома т. Салагуба, туды награнулі жандары. Усё перакапалі, абшукалі, але машынкі не знайшлі.

Яна была добра схавана. Аднак т. Салагуба так збілі, што скора ён памёр.

З часу Лютаўскай і Окцябрскай рэволюцый, калі я ў Ленінградзе ўступіў у Чырвоную гвардыю, я распаўсюджваў і чытаў большэвіцкую літаратуру. Яна натхняла мяне, батрака, у барацьбе за совецкую ўладу, яна натхняе мяне і зараз. Я выпісваю і рэгулярна чытаю «Звязду», «Рабочий», раённую газету, даведваюся з газет аб быстрым росце і ўмацаванні нашай гаспадаркі і аб недахопах, якія ў нас ёсць і якія знішчаюцца.

# Селькор-чырвонасцяжац Алесь Радзюк



— І мы ў ліку 170 лепшых байцоў пайшлі ў тыл белапалякаў. 30 кіламетраў ішлі балотамі і лясамі, хаваючыся ад варожай разведкі. Падышлі пад Лінск і нечаканым ударам разбілі белапольскія рэзервы. На фронце ў белапалякаў пачалося замяшанне. Дрогнуў тыл.

Тав. Алесь **Радзюк** — сёння старшыня Зембінскага сельсовета і актыўны селькор барысаўскай раённай газеты—скуп на ўспаміны. І толькі часамі, пасля напружанай работы ў сельсовеце, седзячы ў познія вечары ў нардоме, ён апавядае хлапцам аб гераічных днях змагання за Совецкую Беларусь.

Першая сустрэча т. Радзюка з белапалякамі адбылася ў 1918 годзе. Тав. Радзюк варочаўся дамоў з Паўднёва-заходняга фронта. Прыбылі ў Бабруйск. Ледзь падрыхтаваліся да адпраўкі, як эшалон быў ачэплен легіянерамі корпуса Доўбар-Мусніцкага. Трое сутак пратрымалі эшалон на станцыі. Потым раздзелі ўсіх, пакінуўшы ў адной бялізне, забралі зброю і адпусцілі.

12 лютага 1919 года тав. Радзюк у сваёй роднай вёсцы Лошніца, Барысаўскага раёна, урачыста сустракаў першыя атрады Чырвонай арміі. А ў красавіку таго-ж 1919 года ён ужо зноў на фронце, у чацвертым варшаўскім савецкім палку. На фронце фармаваўся ўдарны атрад. У ліку лепшых 100 чырвонаармейцаў-беларусаў і 70 чырвонаармейцаў-кітайцаў і тав. Радзюк.

**
*

Восень 1919 года. Цёмнымі беларускімі лясамі і непралазнымі балотамі прабіраюцца ў тыл белапалякаў 170 лепшых байцоў. Іх узбраенне—вінтоўкі, гранаты і лёгкія кулямёты.

Атрад вядзе мясцовы матрос, чырвоны партызан. Перад атрадам пастаўлена задача—нечаканым ударам у тыле белапалякаў паралізаваць фронт, дэмаралізаваць перадавыя часці.

Марозная асенняя ноч з 1-га на 2-е лістапада змянілася яснай раніцай. Чырвоны дэсант набліжаецца да вёскі Ліпск. Разведка даносіць аб наяўнасці ў вёсцы вялікай моцна ўзброенай рэзервнай часці белапалякаў. Атрад маскуецца. Паабапал шашы і яе канаў паўзуць адзіночныя стралкі. На чале аднаго з перадавых аддзяленняў — Радзюк Алесь.

Першы стрэл — сігнал да раптоўнага налёту і ў момант крыкі «ўра» зліліся з кулямётным агнём і стральбой з вінтовак. Упарта абараняліся белапалякі, адстрэльваючыся з сялянскіх хат. Але паніка і страх ад нечаканага налёту смелых байцоў Чырвонай арміі зрабілі сваю справу.

Невялічкі чырвоны атрад у 170 чалавек захваціў у белапалякаў 250 палонных, шмат кулямётаў, бамбамётаў, коней, амуніцыі і рознага харчавання.

Пад аховай 16 смельчакоў камандзір атрада накіраваў 250 палонных і абозы з трафеямі праз фронт у тыл Чырвонай арміі. А астатнія 150 чалавек накіраваліся паражаць з тылу перадавыя белапольскія часці на фронце.

За гэту ўдалую аперацыю тав. Радзюк у ліку другіх 5 чалавек быў узнагароджан Рэвваенсоветам СССР ордэнам Чырвонага сцяга.

У 1922 годзе тав. Радзюк дэмабілізуецца. Два гады працуе на сельскай гаспадарцы, адначасова ходзячы ў заработкі на чыгунку.

У 1925 годзе ён ідзе працаваць у якасці рамонтнага майстра. Прапрацаваў 6 год. Тут-жа пачаў пісаць у насценную газету станцыі, потым звязаўся з газетай «Гудок».

Працуючы на чыгунцы, тав. Радзюк адначасова з'яўляўся членам сельскага совета. І вось у 1930 годзе яго выбіраюць старшынёй сельсовета. Для былога баразьбіта за Совецкую Беларусь на фронце грамадзянскай вайны пачынаецца новае поле дзейнасці — на фронце калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

5 год працуе тав. Радзюк у якасці старшыні аднаго з перадавых у Барысаўскім раёне і ў БССР Зембінскага сельсовета.

У 1933 годзе Зембінскі сельсовет як адзін з лепшых у БССР па ўсебеларускаму конкурсу ўзнагароджан граматай ЦВК БССР.

Як стары селькор барысаўскай раённай газеты «**Бальшэвік Барысаўшчыны**» тав. Радзюк і па сёння не парывае сваёй сувязі з газетай.

Нядаўна пры дапамозе раённай газеты «Бальшэвік Барысаўшчыны» тав. Радзюк правёў цікавае мерапрыемства — паход за культурную хату.

**За час культурнага паходу 500 калгасных хат Зембінскага сельсовета былі выбелены і аклеены.** Дзве вёскі азелянілі свае вуліцы; абсадзілі 3 кілометры дарогі дрэвамі.

Зараз тав. Радзюку — члену КП(б)Б з 1930 года — пашоў 39 год. Але ён не адчувае стомы ў рабоце.

— У гэтым годзе абавязкова пайду вучыцца. Мяркую паступіць у Вышэйшую сельскагаспадарчую комуністычную школу. Пасля вучобы дам для партыі і краіны ў дзесяць раз больш, чым зараз.

Такі шлях героя грамадзянскай вайны, селькора, старшыні перадавога Зембінскага сельсовета.

**М.А.**

# На новы фронт

★ ★ ★ Вл. КОЗЛЯК ★ ★ ★

Часта ўспамінае былы чырвоны партызан Усцін Арцем'евіч **Парангоўскі** 1920 год.

Крывёю і вогнішчамі пажараў дыміліся гарады і сёлы Беларусі. Войскі «Жэчы Посполітай» агнём і мячом руйнавалі абшары пролетарскай краіны. Але нядоўга давялося гаспадарыць белапольскай арміі. Пад націскам слаўных чырвоных палкоў і шматлікіх партызанскіх атрадаў пачалі белапалякі паспешна адступаць.

У старым сяле недалёка ад Заслаўля сфармаваўся атрад Жана. Адным з першых добраахвотнікаў быў бядняк Усцін Парангоўскі.

З лясоў, балот нечаканым кулямётным ліўням партызаны наводзілі паніку на белапольскія атрады. Не адзін раз стагналі балоты, хлюпала вада, змешаная з крывёю, грымелі прыклады. І не адзін раз сотні палонных, зброя, агнявыя прыпасы пераходзілі ў рукі чырвоных партызан.

У старым сяле адпачывалі польскія ўланы.

Толькі пачынала світаць. Шэры туман зацягнуў ваколіцу. З абодвух бакоў ваколіцы грымнуў дружны залп. Суматоха, паніка. Перапужаныя нечаканым «візітам» палякі адкрылі беспарадачную стральбу, пачалі кідаць гранаты. Але было ўжо позна. З двух бакоў вёскі, з агародаў, з-за хлявоў—адусюль меткія кулі пападалі ў ворага. Вось з-за гумна выбег на вуліцу нізкарослы чалавек з вінтоўкай у руках. Ён прабег праз двор да плоту і, прысеўшы на калена, пачаў «ачышчаць» вуліцу ад перапалоханых жаўнераў. У некалькіх кроках ад яго разарвалася варожая граната. Выбух. Нешта гарачае заліло шчаку, закапала на расістую траву. Калі прышоў у сябе—на вуліцы грымелі песні. Партызан,—гэта быў Парангоўскі,—прыціскаючы руку да разбітага твару, вышаў з засады да сваіх.

— 40 фурманак абозу, палкавая канцэлярыя, паручык, 150 знарадаў, 2 кулямёты і 76 палонных—вось трафеі партызанскага атрада.

Адгрымелі кананады грамадзянскай вайны. Апошнія белапольскія палкі паспешна адступілі за мяжу.

Пачалося мірнае будаўніцтва.

У пачатку 1923 года Усцін Арцем'евіч паступіў на менскі машынабудаўнічы завод «Энергія»—зараз завод імя Варашылава. Лемяхі, падковы і вулічныя ліхтары—такая была прадукцыя раней шага завода. А зараз складаныя свідравальныя і такарныя варштаты, барыльесты, багеры—тарфяныя камбайны выпускае завод імя Варашылава.

Дзесяткі і сотні лепшых ударнікаў, пад кіраўніцтвам партыі аддана змагаюцца за новыя вытворчыя перамогі, за завод, варты ордэнаноснай рэспублікі. І сярод гэтых людзей—Парангоўскі—былы партызан. Цвёрдая рашучасць, настойлівасць, уменне даводзіць пачатую работу да канца, званне члена вялікай партыі Леніна-Сталіна—гэта асталося ў Парангоўскага ад незабыўных дзён гераічнай барацьбы з белапалякамі. Не дарма Парангоўскі з'яўляецца цяпер рэдактарам лепшай насценгазеты завода, лепшым ударнікам. Насценгазета «Молат» карыстаецца велізарным аўтарытэтам у цэху. Ля кожнага нумара газеты заўсёды поўна людзей. Яе любяць і паважаюць.

Рэдактар прэміраванай па заводскаму конкурсу газеты, дэпутат Менгорсовета, былы чырвоны партызан Усцін Арцем'евіч Парангоўскі на новым фронце з новай зброяй удзельнічае ў грандыёзным будаўніцтве радаснага і шчаслівага жыцця.

— 11 ліпеня —урачыстасць працоўных БССР,—гаворыць Парангоўскі.— Вялікае свята святкуе народ. І мы, чырвоныя партызаны, яшчэ раз успомнім у гэтыя дні гераічныя баі з белапольскімі акупантамі, праверым сябе, сваю работу. У любы момант, калі патрэбна будзе, зноў возьмем у рукі баявую зброю, грудзьмі станем на абарону сваёй пролетарскай радзімы.

К. ФРАЛОЎ — рэдактар насценгазеты кап гаса «Чырвоныя Яромкавічы».

# ПАМЯТАЕМ АБ ТЫМ, ШТО ВАЯВАЦЬ ЯШЧЭ ПРЫДЗЕЦЦА

**На ўвесь раён вядомы наш калгас „Чырвоныя Яромкавічы“ добрай пастаноўкай ў ім абароннай работы.**



Гаворачы аб нашых поспехах у абароннай рабоце, ніяк нельга абмінуць работу селькораў-ударнікаў і насценнага друку калгаса.

Арганізацыя Асоавіяхіма існуе ў калгасе ўжо некалькі год, але да мінулага года працавала досыць слаба. У мінулым годзе мы рашылі ажывіць работу асоавіяхімаўскай арганізацыі. Змясцілі артыкул у насценгазеце. Комсамольцы таксама абгаварылі гэта пытанне — рашылі дапамагчы Асоавіяхіму.

Як толькі аб'явілі аб арганізацыі стралковага гуртка, адразу лік запісаўшыхся дасягнуў пяцідзесяці. Усе, што запісаліся, выказалі жаданне рэгулярна наведваць гурток. Характэрна тое, што ў стралковы гурток запісаліся не толькі маладыя хлопцы, але і дзяўчаты і некалькі пажылых калгаснікаў.

— Паглядзім яшчэ, хто каго апярэдзіць на стральбе! — гаварылі пажылыя калгаснікі **маладым. К таму** ча калгас набыў тры дробнакаліберныя вінтоўкі, і мы пачалі займацца.

А сёння мы ўжо можам падвесці першыя рэзультаты нашай работы. **23 члены стралковага гуртка здалі нормы на значок «Варашылаўскі стралок».** Сярод першых значкістаў тры дзяўчыны— Анісся **Вараб'ёва,** Вера **Тасава** і Гаша **Ціханская.**

Яны страляюць выдатна, не горш, чым лепшыя нашы стралкі-мужчыны.

Або ўзяць нашу калгасную ваенізаваную канюшню. Які яшчэ калгас на Аршаншчыне мае такую канюшню, такіх моцных і здаровых коней, як нашы!

Ініцыятыва стварэння ваенізаванай канюшні таксама належыць нашым селькорам і комсамольцам.

Чым-жа вызначаецца наша канюшня? Чаму яна называецца ваенізаванай? **Таму, што даглядаем мы сваіх коней па чырвонаармейску, па-будзёнаўску.**

Зайдзіце ў нашу канюшню. Першае, на чым спыніцца ваша вока, гэта — узорны парадак, чыстата. Але не толькі знадворным выглядам вядома наша канюшня. Уся справа ў тым, што коні ў нас узорна даглядаюцца. Мы ўвялі правільнае, навукова-ўгрунтаванае кармленне коней.

Кожную раніцу конюхі чысцяць коней. Таму коні нашы блішчаць, як лялькі. Кармленне, вадапой, чыстка — усё гэта праводзіцца згодна строгага раскладу. **А каб конюхі не забывалі** ча су, на сцяне канюшні вісіць гадзіннік.

Усе конюхі — члены асоавіяхімаўскай арганізацыі і займаюцца ў стралковым гуртку. Вывучаюць таксама асновы ветэрынарыі. У канюшні ёсць ветэрынарныя аптэчкі і конюхі заўсёды пры выпадку могуць аказаць першую дапамогу коню.

Наша калгасная насценгазета вялікую ўвагу аддае догляду коней. Аб гэтым піша нам старшы конюх тав. Сільчанка, а таксама другія конюхі і калгаснікі паляводчых брыгад.

Такавы нашы першыя дасягненні. Безумоўна, мы зрабілі яшчэ не ўсё што трэба зрабіць для таго, каб ператварыць наш калгас у несакрушальную крэпасць абароны. Але мы не спынім работы. Нашы селькоры і ўсе калгаснікі ведаюць аб падрыхтоўцы капіталістычнымі дзяржавамі вайны супроць СССР. Мы памятаем аб тым, што ваяваць яшчэ прыдзецца, і зробім усё магчымае для ўмацавання абароны нашай мацеры-радзімы.

«ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СУВЯЗІ РАБОЧАГА КЛАСА СССР З РАБОЧЫМІ КАПІТАЛІСТЫЧНЫХ КРАІН, БРАЦКІ САЮЗ РАБОЧЫХ СССР З РАБОЧЫМІ ЎСІХ КРАІН—ВОСЬ АДЗІН З КРАЕВУГОЛЬНЫХ КАМЯНЁЎ СІЛЫ І МАГУТНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ СОВЕТАЎ».

**(СТАЛІН).**

# Совецкая Беларусь
## у замежным рабочым друку

Пасля вызвалення БССР ад белапольскіх акупантаў у рабочым і комуністычным друку пачалі з'яўляцца артыкулы аб БССР. Галандская **«Дэ трыбунэ»** (орган ЦК КП Галандыі) першая змясціла рад артыкулаў эб БССР, ае экапамічным, культурным і нацыянальным росквіце.

За «Дэ трыбунэ» артыкулы аб БССР пачалі змяшчаць і іншыя комуністычныя і рабочыя газеты: англійскія **«Дэйлі Уоркер Віклі»**, жаночая газета **«Лэйбор Уоман»**, **«Уоркер»** і інш.

У дзень сямігадовага юбілею іспавання БССР матэрыялы аб БССР змяшчаюць апрача галандскай **«Дэ трыбунэ»**, якая друкуе артыкул старшыні ЦВК БССР тав. **Чарвякова**, фінляндскія **«Тыеданантайя»**, **«Паналіпу»**, германскія **«Саксішэ арбайтэр цайтунг»**, **«Нэйе цайтунг»**, **«Рур-Эхо»**. З старонкамі, прысвечанымі Беларусі, выходзяць **«Васт-Свенска Курырэн»** (Гётэборг), **«Герольдо дэ Эсперанто»** (Германія), **«Р. Л. Ф.»** (Балгарыя).

Рад артыкулаў аб БССР і пісьмаў нашых беларускіх рабкораў змясцілі: **«Дэйлі Уоркер»**, **«Новый мир»**, **«Сознание»** — газета рабочых балгар фордаўскіх прадпрыемстваў, **«Сутэн Уоркер»** (ЗША), **«Рудэ Праве»**, **«Ды комуністыч»** (Чэхаславакія), **«Юманітэ»**, **«Урвір»**, **«Морх»**, **«Гегарло»** (Францыя), **«Ротэ фанэ»**, **«Фрэйгайт»**, дзесяткі правінцыяльных і каля 25 фабрычна-заводскіх газет.

Артыкулы аб БССР былі надрукаваны і ў газетах Мексікі, Урагвая, Перу, Кубы, Аргентыны, газетах Афрыкі і Аўстраліі.


l'Humanité

«Юманітэ» — цэнтральны орган комуністычнай партыі Францыі.


VÄST-SVENSKA KURIREN

Livsfarliga bissar vid Levantens Färgeri.

Götaverken, den moderna grottekvarnen.

Ett besök i Minsk

«Усходне-шведскі кур'ер» — газета комуністычнай партыі Швецыі.


ARBETAR-TIDNINGEN

Enhetsfront gav glänsande seger åt oppositionen på Götaverken

Газета гётэборскіх рабочых, якая змясціла рад артыкулаў аб БССР.



DAILY WORKER

MARCH TO END SLAVE ACT

Rallies Throughout Country To-Morrow

ALL LONDON WORKERS TO HYDE PARK

PROTEST STORM OVER JAILING

Welsh Miners Go Forward To Strike

«Дэйлі Уоркер» — цэнтральны орган комуністычнай партыі Англіі.

---



Sächsische Arbeiter-Zeitung



„Eure Fahne weht bei uns“

Пісьмо калгаснікаў калгаса «Рассвет-пераможца», якое было надрукавана ў нямецкай рабочай газеце «Арбайтар цэйтунг».

Наведаўшыя БССР замежныя дэлегаты-эсперантысты змясцілі ў замежным друку рад артыкулаў аб БССР. Нямецкія таварышы Х. Х., якія знаходзяцца зараз у засценках фашысцкіх катаў, змясцілі да 25 артыкулаў аб БССР у 8 газетах Германіі. Праз прэс-бюлетэнь гэтыя матэрыялы былі разасланы ва ўсе газеты Германіі.

Вядомы японскі пісьменнік-драматург **Удяку Акіта,** наведаўшы БССР (зараз Акіта знаходзіцца ў турме за спачуванне СССР), змясціў рад артыкулаў аб сваім падарожжы ў БССР у **«Ніптон Муканша Шымбун»,** у радзе літаратурных газет і журналаў. У сваёй кнізе «У краіне сонца» (аб падарожжы па СССР) —ён адвёў некалькі раздзелаў БССР.

Беларускае бюро міжнароднай сувязі совецкіх эсперантыстаў змясціла за час з 1925 да 1934 г. уключна звыш **2.025** артыкулаў у замежным перыядычным друку і 1.662 у фабрычна-заводскім друку, галоўным чынам Германіі і Францыі. Бюро дасылала за межы артыкулы і пісьмы рабкораў **«Звязды», «Рабочего», «Калгасніка Беларусі»** і іншых газет. У многіх рабкораў і зараз захоўваюцца замежныя комуністычныя рабочыя газеты з іх артыкуламі. У гэтых артыкулах расказвалася аб велізарным соцыялістычным будаўніцтве ў БССР. Аб поспехах ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. І зараз у бюро міжнароднай сувязі прыходзяць пісьмы з-за мяжы з просьбай дасламь матэрыял аб БССР, бо на яе поспехах «ярка відны дасягненні ўсяго Саюза». І з Швецыі, і з Кубы, нават з далёкіх Гавайскіх астравоў прыходзяць такія просьбы. І бюро дасылае свае матэрыялы.

Дрэнна толькі, што гэта работа носіць яшчэ саматужны характар, няма пастаяннага прэс-бюлетэня на эсперанта, які-б можна было рассылаць ва ўсе краіны — рабочым і комуністычным газетам.

Да 15-годдзя вызвалення БССР ад белапалякаў бюро пасылае комуністычным газетам за мяжой артыкулы **«Пятнаццацігоддзе вызвалення Беларусі ад белапалякаў», «За што БССР атрымала ордэн Леніна».**

**Д. СНЕЖКО.**

БУДЗЕМ ЗАЎСЁДЫ ПАМЯТАЦЬ І НЯСТОМНА ВЫКОНВАЦЬ УКАЗАННІ НАШАГА ЛЕПШАГА ДРУГА, НАСТАЎНІКА І ПРАВАДЫРА Т. СТАЛІНА АБ АЎЛАДАННІ НАВУКАЙ, ТЭХНІКАЙ І КУЛЬТУРАЙ.

**(З лозунгаў да 15-годдзя вызвалення БССР ад белапалякаў).**

# ПРАДАУЖАЕМ ЛІТАРАТУРНЫ ПАХОД

★ ★ ★ **В. КАВАЛЕВІЧ** ★ ★ ★



Першы тур паходу за аўладанне калгаснікамі мінімумам лепшых твораў совецкіх пісьменнікаў у Аршанскім раёне ўжо закончан. 17 мая раённая газета **«Ленінскі прызыў»** пісьмом калгаснікаў з калгаса «Ларынаўка» абвясціла **другі тур паходу.** Калгаснікі калгаса «Ларынаўка» рашылі не спыняцца на літаратурным мінімуме, дабіцца, каб кожны калгаснік іх калгаса прачытаў усе лепшыя творы совецкіх пісьменнікаў, каб кожны калгаснік заняўся вывучэннем твораў класікаў марксізма-ленінізма, каб кожны калгаснік пазнаёміўся з творамі класікаў рускай літаратуры — Некрасавым, Пушкіным, Горкім і іншымі.

Першы тур паходу зрабіў вялікую справу. За кнігу селі літаральна сотні калгаснікаў. Праўдзівасць вобразаў з лепшых твораў совецкай літаратуры, іх вялікі ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве і фармаванні новага чалавека ўзнялі актыўнасць чытацкіх мас. Мы маем нямала фактаў перайначвання людзей, перарробкі іх псіхікі пад уплывам прачытаных ці праслуханых на гуртку кніг. Літаратурны паход адбіўся і на знадворным выглядзе нашых калгасаў, на хаце калгасніка, на яго быце. У рэзультаце паходу шырока разгарнулася калгасная самадзейнасць, выявіліся новыя калгасныя таланты.

Падамо некалькі фактаў. Зараз у кожным калгасе нашага раёна працуюць санітарныя камісіі. Яны сістэматычна правяраюць санітарнае становішча хат калгаснікаў. І гэта дало станоўчыя рэзультаты. Большасць калгаснікаў раёна пабялілі хаты, рэгулярна мыюць падлогу, павялічваюць вокны ў хатах. У хатах калгаснікаў з'явілася мяккая мэбля, канапы, венскія крэслы, занавескі на вокнах. А калгаснікі тт. Чэркасаў, Янкоўскі і іншыя набылі досыць багатыя ўласныя бібліятэкі.

А вось некалькі фактаў, якія гавораць аб выхаваўчым уздзеянні паходу. Конюх Султанаў на чытцы «Поднятой целины» узяў абавязацельства — быць лепшым конюхам у раёне, быць такім адданым партыі і калгаснаму будаўніцтву, як герой аповесці Шолахава Давыдаў. І трэба адзначыць, што тав. Султанаў свае абавязацельствы выконвае добра. Ён не толькі старанна надрыхтаваў калгасных коней да сяўбы. Ён і ў часе сяўбы арганізаваў прыкладны дотляд коней у полі. Разам з брыгадзірам выязджаў у поле і там дагледаў коней увесь дзень.

Калгаснік Іван Сугак з калгаса «XVІ партз'езд, Панізоўскага сельсовета, усхваляваны гераічным нападам партызан на белапольскі абоз і захапляючыся пераможнай схваткай атрада дзеда Талаша з атрадам пана Крулеўскага (аповесць Я. Коласа «Дрыгва») узяў на сябе абавязацельства лепш адносіцца да калгаснай працы і перавыконваць нормы выпрацоўкі. І тав. Сугач сапраўды стаў адным з прыкладнейшых калгаснікаў.

Чытка мастацкай літаратуры выклікала ў калгаснікаў жаданне не толькі чытаць, але і самім пісаць частушкі, вершы, нарысы, і яны пачынаюць пісаць. Нядаўна ў рэдакцыю раённай газеты прышла 38-гадовая калгасніца Ф. **Каржуева** з калгаса «Шлях да соцыя-

лізма», Рудкаўскага сельсовета. Яна прынесла з сабой сшытак уласных вершаў і частушак.

— Я вось, — гаварыла т Каржуева, — напісала некалькі вершаў і прыдумала новыя частушкі, паглядзіце...

Асобныя вершы тав. Каржуевай мы надрукавалі ў газеце. Так стала калгаснай паэтысай Феакціста Каржуева, пазнаўшая грамату толькі два гады назад.

Пачалі друкаваць свае вершы ў раённай газеце і калгаснік **Шчарбоў** Сямён з калгаса «XVI партз'езд», Панізоўскага сельсовета, і Сугак Іван, і рад іншых.

Чытка кніг у гуртку прывіла любоў да кнігі. Калгаснікі вельмі актыўна збіраліся на гурткі, слухалі чытчыка з выключнай увагай, а пасля ішлі ў чырвоны куток і бралі кніжкі да хаты. Калгаснік Шапкоўскі Рыгор з калгаса імя Кірава, Баранскага сельсовета, зараз кожны вечар дома чытае кнігі. Чытае ўголас, слухае ўся сям'я. Ніна Радзянка з калгаса «Чырвоны Окцябр» за апошні год прачытала 112 апавяданняў і аповесцей.

Асабліва добра працавалі гурткі ў калгасах Баранскага сельсовета. Дзесяткі калгаснікаў набываюць мастацкую літаратуру. Аповесць «Дрыгва» Коласа, «Поднятая целина» Шолахава, «Два мира» Зазубрына, «Энергия» Гладкова, «Я люблю» Аўдзеенка і дзесяткі іншых кніг разбіраюцца чытачамі нарасхват.

У гуртках па чытцы мастацкай літаратуры калгаснікі з выключнай цікавасцю і ўвагай знаёміліся з творамі **Леніна і Сталіна,** з важнейшымі партыйнымі і совецкімі дакументамі.

За кнігу селі і старыя. Вось стары рабочы цвіковага завода «Чырвоны Окцябр» **Антаненка** Антон Міхайлавіч. Ён чытае Алексея Талстога, Ільіна, прачытаў «Брускі» Панферава. Разам з тым ён сур'ёзна ўзяўся за вывучэнне **твораў Сталіна,** вывучае праграму і статут партыі, рыхтуецца да ўступлення ў спачуваючыя.

Або ўзяць паліроўшчыка галантарэйнага цэха гэтага-ж завода тав. **Федарэнчыка.** За апошнія чатыры месяцы ён прачытаў 30 кніжак. Чытае Леніна, Сталіна. Прачытаў дзесятак мастацкіх кніжак, Мсціслаўскага, Джон Рыда, Гогаля і іншых аўтараў.

Такавы некаторыя рэзультаты першага туру. Яшчэ большыя надзеі падае другі тур паходу. З часу абвяшчэння другога туру прайшло менш месяца, а мы ўжо маем рад фактаў выключнай каштоўнасці. У калгасе «Ленінскі шлях», Браздзечанскага сельсовета, у гуртку чытаюць «Цусиму» Новікава-Прыбоя. Калгаснікі **Другакаў, Шалашэнь** і іншыя дома чытаюць **«Пытанні ленінізма»** Сталіна.

Калгаснік **Зіндзінскі** Мікіта з калгаса «Ларышаўка», Крапівенскага сельсовета, каб не адстаць у чытцы ад гуртка, купіў сабе бібліятэку з 40 кніжак лепшых совецкіх пісьменнікаў, якія на працягу гэтага года будуць чытацца ў гуртку.

У калгасе «Чырвоная ніва», Панізоўскага сельсовета, ёсць свой радыёвузел. У выходныя дні, у вольны ад работы час і ў дажджлівае надвор'е праўленне калгаса наладжвае гучную чытку асобных твораў праз мікрафон.

Зараз **селькоры, рэдактары калгасных і брыгадных насценгазет, старшыні і брыгадзіры калгасаў нашага раёна пішуць першы свой калектыўны твор — кнігу вопыта першага туру літаратурнага паходу.** Гэта будзе скарбніца вопыту. І трэба спадзявацца, што гэта кніга будзе з працягам, бо другі тур літаратурнага паходу дасць яшчэ большыя рэзультаты і аб іх таксама прыдзецца расказаць.

**Рэдакцыя газеты «Ленінскі прызыў».**
**Орша,**

---

# Каштоўнае пачынанне

«З усіх каштоўных капіталаў, якія ёсць у свеце, самым каштоўным і самым рашаючым капіталам зьяўляюцца людзі, кадры» (Сталін).

З наступленнем лета многія калгаснікі і калгасніцы Менскага раёна паехалі ў дамы адпачынку і санаторыі. На два тыдні, на месяц, а то і больш яны адарваліся ад сваёй штодзённай работы, каб адпачыць і паправіць сваё здароўе.

Але з ад'ездам на адпачынак і лячэнне не парываецца іх сувязь з сваімі калгасамі, з сваімі роднымі, блізкімі, таварышамі. Гэта сувязь падтрымліваецца штодзённа шматлікімі пісьмамі з калгасаў у санаторыі і з санаторыяў у калгасы.

Што-ж нясуць у сабе гэтыя пісьмы? Аб чым перапісваюцца адпачываючыя са сваімі калгасамі? Аб чым пішуць ім з калгасаў?

Гэтым пытанням прысвечана ўся трэцяя паласа нумара менскай раённай газеты **«Шлях соцыялізма»** ад 1 чэрвеня. Трэба адзначыць, што гэта паласа рэдакцыі менскай раённай газеты ўдалася.

Рэдакцыя зрабіла проста. Работнікі газеты перш за ўсё даведаліся ў калгасах, якія калгаснікі і дзе адпачываюць. Пазнаёмілася з іх роднымі, блізкімі, знаёмымі, сабрала іх пісьмы да адпачываючых калгаснікаў.

Работнікі рэдакцыі пабывалі таксама ў бліжэйшых санаторыях, дзе адпачываюць калгаснікі Менскага раёна. Такім чынам, рэдакцыя ў сваім распараджэнні мела некалькі надзвычай каштоўных пісем. Гэтыя пісьмы надрукаваны ў газеце 1 чэрвеня.

Над пісьмамі надрукаваны мудрыя словы таварыша **Сталіна,** якія сталі сцягам нашай эпохі: «З усіх каштоўных капіталаў, якія ёсць у свеце, самым каштоўным і самым рашаючым капіталам з'яўляюцца людзі, кадры». Гэтым словам правадыра, як нельга лепш адпавядае змест усіх пісем, змешчаных на паласе.

Адпачываючыя пішуць сваім родным, сваім таварышам аб тым, як яны жывуць і набіраюцца сіл у санаторыях, як добра іх там даглядаюць. І тут-жа яны запытваюць аб калгасных справах, цікавяцца тым, як калгас рыхтуецца да ўсебеларускага народнага свята, як ідзе праполка, як жывуць і працуюць калгаснікі.

Піша адпачываючая калгасніца Матрона свайму Алексу ў калгас:

**«З кожным днём маё здароўе папраўляецца... Гэта не санаторыя, а проста рай... Вось адпачываю я і думаю, што ніколі не снілася, каб былая беднячка, забітая цёмная жанчына, хоць-бы адну гадзіну знаходзілася ў такіх умовах».**

У гэтым пісьме Матрона просіць свайго «дарагога Алексу» напісаць ёй, як калгаснікі рыхтуюцца да народнага свята, як у калгасе сустрэлі збор сродкаў на пабудову новых самалётаў-гігантаў. А крыху далей у пісьме напісаны цёплыя словы братам і братавай, маленькім пляменніцам, якім цётка абяцае прывезці цікавыя падарункі.

Піша з санаторыі «Чырвоны Окцябр» комсамолец Янка **Юцкевіч.** Паведамляе свайму таварышу Алесю, якія кнігі паспеў прачытаць у санаторыі, цікавіцца тым, як працуе комсамольская група на праполцы, ці падцягнулася адстаўшая раней трэцяя брыгада.

Цеплатой і задушэўнасцю вее ад пісем калгаснікаў адпачываючым. Асноўны матыў гэтых пісем:—Адпачывайце добра дарагія таварышы. Набірайцеся сіл, мацнейце.

Комсамолец Косця піша пісьмо ў Ялту, дзе адпачывае яго прыяцель **Я. Калтовіч.** У калгасе куча навін. Як не расказаць аб усіх іх свайму сябру. Як не напісаць аб тым, як прайшла раённая алімпіяда самадзейнага мастацтва, як ён, Косця атрымаў за выдатную ігру на гітары ганаровую грамату.

А вось вытрымка з пісьма, надрукаванага пад загалоўкам «Вам трэба сур'ёзна адпачыць». Старшыня калгаса «Чырвоны гароднік» т. **Касмалёў** піша калгасніку Мікалаю Васільевічу **Чарнякоўскаму** ў санаторый «Чырвоны октябр».

**«Мікалай Васільевіч!**

**У санаторыі менш за ўсё думайце і турбуйцеся за калгас. Вам трэба добра адпачыць. Мы тут пастараемся не падкачаць. Раю пабольш выкарыстоўваць сонца, вольнае чыстае паветра, добра харчавацца»...**

Такавы асобныя вытрымкі з пісем апублікаваных у «Шляху соцыялізма». У гэтых пісьмах інтымныя асабовыя справы пераплятаюцца са справамі і клопатамі калгаса, грамады.

Добрую, яркую, радасную старонку арганізавала рэдакцыя газеты «Шлях соцыялізма». Трэба вітаць гэта каштоўнае пачынанне менскай газеты, якая паказвае прыклад—і гэта ўжо не ў першы раз—як наш друк павінен перабудавацца ў напрамку лозунга таварыша Сталіна—«Кадры вырашаюць усё».

---

# НА ВАРЦЕ БАГАТАГА ЎРАДЖАЮ

★ ★ ★ **Г. ЗАЙЦАЎ** ★ ★ ★

ЦЭНТРАЛЬНАЯ ЗАДАЧА ЎБОРАЧНАЙ КАМПАНІІ — ЗМАГАЦЦА СА СТРАТАМІ, ПОЎНАСЦЮ САБРАЦЬ І ЗАХАВАЦЬ БАГАТЫ ЎРАДЖАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ ПАЛЁЎ.

**(З лозунгаў да 15-годдзя вызвалення БССР ад белапалякаў).**

Зашумела, закрасавала пад гарачымі праменнямі чэрвеньскага сонца густое, высокае жыта. Пачынае каласавацца авёс. Сінім цветам пакрываюцца льняныя палі.

— Эх, і ўраджай сёлета! Не прыпомніць такога ўраджаю,—гаворыць старыкі калгаса «10-ты з'езд Советаў», Аршанскага раёна.

Моцна папрацавалі калгаснікі гэтай вясной. Песцілі зямлю, і зямля з удзячнасцю дарыць сваім гаспадарам небывалы ўраджай.

Рэдактар калгаснай насценгазеты «Калгаснік» каваль т. Белкін узяў метр і разам з брыгадзірамі Ефрэмавым, Вайцэхоўскім, Старавойтавым, старшынёй калгаса Шастоўскім абышлі ўсе палі. Доўга любаваліся яны зялёнымі із блакітным адлівам участкамі ільну. Ніколі не было такога ільну ў калгасе. Лён зацвітае, пустазелля няма, яно знішчана двухразовай прапольнай.

На ўчастку звышранняй сяўбы вырвалі пучок ільну і тут-жа памералі: даўжыня сцябла перавалíла за 70 сантыметраў.

Калгаснікі калгаса «10-ы з'езд Советаў» цвёрда рашылі зняць сёлета з гектара: жыта—13 цэнтнераў, аўса—14 цэнтнераў, ячменю — 15 цэнтнераў, пшаніцы—13,5 цэнтнераў, ільновалакна—3,5 цэнтнера.

Але добрыя віды на ўраджай яшчэ не гарантуюць паспяховага правядзення ўборкі і паставак. Да ўборкі трэба добра падрыхтавацца, добра правесці яе, не дапусціць страт, разбазарвання зерна, своечасова выканаць абавязкі перад пролетарскай дзяржавай. У калгасе добра памятаюць гэта. Калгасная насценгазета і селькоры яшчэ ў пачатку чэрвеня паставілі перад калгаснікамі задачу ўсебаковай падрыхтоўкі да ўборкі.

Насценгазета патрабавала хуткага складання плана ўборкі ўраджаю.

На чарговым пасяджэнні праўлення абмеркавалі вытворчы план, прапрацавалі план на вытворчых нарадах і сходзе калгаснікаў. Кожная брыгада склала свой план на час уборкі.

Вось вытворчы план брыгады Ефрэмава. Выходзячы з наяўнасці людзей, цягавай сілы, машын, уборка зернавых будзе праводжацца 8 дзён. Малаціць брыгада будзе штодзенна з першых дзён уборкі. План здачы хлеба дзяржаве брыгада выканае за 5 дзён. Таксама мяркуюць правесці ўборку і пастаўкі і астатнія брыгады калгаса.

Больш дваццаці год рэдактар Белкін працуе кавалём. Зараз ён скардзіцца толькі на адно: Кароткі ўсё-ж вялікі чэрвеньскі дзень. Зранку да вечара т. Белкін працуе ў кузні, а ўвечары арганізоўвае выпуск чарговага нумара насценгазеты.

Уборачныя машыны адрамантаваны датэрмінова. Тав. Белкін не толькі ўзначаліў рамонт сенакасілак, жняярак, але і рыхтуе кадры, якія будуць на машынах працаваць.



Калгас пачаў касьбу. На двух касілках працуюць актыўныя селькоры Раманцоў Васіль і Сцепаненка Іван. Таварышы спаборнічаюць паміж сабой і скошваюць у дзень не менш чым па тры гектары. Машыны працуюць вельмі добра. А яшчэ нядаўна і Раманцоў і Сцепаненка не ведалі, як падыйсці да касілкі. Іх абодвух навучыў працаваць на касілцы т. Белкін.

Тры жняяркі адрамантаваны і змазаны. Ячы выпрабаваны вопытным машынаведам Белкіным, і брыгадзіры прызналі работу машын бездакорнай. На дзве жняяркі падрыхтаваны машыністы, а на трэцюю няма вадзіцеля. Тав. Белкін своечасова перад праўленнем калгаса ўзняў пытанне аб падрыхтоўцы трэцяга машыніста, і зараз пад яго кіраўніцтвам вывучае тэхніку работы па жняярцы лепшая ўдарніца Маша Ахрэмава.

Не было ў калгасе добра абсталяванай сушыльні, што вельмі адбівалася на якасці і тэрмінах уборкі і паставак. Селькоры гэта ўлічылі і праз насценгазету ўнеслі прапанову пабудаваць калгасную сушыльню. Зараз калгас пабудаваў узорную сушыльню, у якой будзе адразу высушвацца 10 возоў неабмалочанага збожжа. Гэта дасць магчымасць у любое надвор'е не адрываць уборку ад возкі і абмалоту.

Селькоры калгаса добра ўлічваюць, што ў гарачы час уборкі і вярновачка можа падвесці. Таму селькоры не абмінаюць ні адной на першы погляд дробязі, якая ў часе ўборкі і паставак можа стаць сур'ёзнай перашкодай.

Калгас меў толькі 40 мяшкоў. Аб набыцці тары насценгазета своечасова падняла пытанне, і ўжо пашыта новых 220 мяшкоў. А вось другое гаспадарчае пытанне. Свірны калгаса былі накрыты саломай. Гэта небяспечна ў сэнсе пажару, апрача таго, ў саломе разводзяцца шкоднікі. Па ініцыятыве селькораў два вялікія калгасныя свірны перакрыты гонтай.

Калгаснікі калгаса «10-ты з'езд Советаў» уключыліся ва ўсесаюзны конкурс на пастаўку дзяржаве высокаякаснага зярна. Селькоры і нізавы друк калгаса накіроўваюць усе свае намаганні на тое, каб перадавы ў раёне калгас заняў перадавое месца ў конкурсе.

**Калгас «10-ы з'езд Советаў», Аршаншчына.**

# Мяняецца выгляд калгасных хат

★ ★ ★ С. ШАІРКА ★ ★ ★

**(СЕЛЬКОРАЎСКІ ПАХОД ЗА КУЛЬТУРУ).**

Пачалі мы паход за культуру з канцэлярыі сельскага совета. Сельсовецкая канцэлярыя ў той час паказвала прыклад бескультур'я. Брудная падлюга, заваленая папяровым зрывам, акуркі, напляёвана, голыя сцены. Адным словам не канцэлярыя сельсовета, а канюшня ў дрэнным калгасе.

Гутарылі нашы селькоры з тав. **Дзямідавым**—старшынёй сельсовета. Абмяркоўвалі, як пачаць паход за чыстую культурную калгасную хату. Рашылі пачаць з канцэлярыі сельсовета, зрабіць яе ўзорнай, культурнай.

Так і зрабілі. І не пазнаць цяпер канцэлярыі сельсовета. Усюды — чыстата, падлога блішчыць, нідзе ні паперкі, ні акуркаў. На сценах — партрэты правадыроў, ля вокан — вазоны. Свежыя газеты ў сельсовеце заўсёды пачытаць можна.

Вакол памяшкання таксама парадак навялі. Абгарадзілі двор, клумбы разбілі, кветак насадзілі. Да ганка праклалі роўненькія дарожкі, жоўтым пяском пасыпалі.

З сельсовета бяруць прыклад калгаснікі. Зойдзе калгаснік у сельсовет, паглядзіць: чыстата кругом, парадак, культурна, ну, думае, трэба і мне ў хаце сваёй парадак заводзіць. Прыклад — гэта самы лепшы агітатар.

Калгасніцы **Вінаходава, Трапашкіна** першымі ўзяліся навесці чыстату ў хатах. Ля хат парабілі клумбы, кветкі пасадзілі. Узорнай стала хата актыўнага селькора т. **Гурко**, хата знатнага чалавека нашага калгаса — загадчыцы аўцагадоўчай фермы Альмы Азол і хаты другіх лепшых людзей калгаса.

Перадавікі паходу за культурную калгасную хату падзяліліся праз насценгазету сваім вопытам з усімі калгаснікамі. Цэлы нумар насценгазеты прысвяцілі мы іх выступленням. Пісалі і пра тых калгаснікаў, якія ніяк не маглі адразу развітацца з векавым брудам. Зрабіла ўплыў. Пачалі і яны цягнуцца за перадавікамі. Такавы калгаснікі Сарадынскі, Казлоў.

Узняла насценгазета пытанне аб стварэнні калгаснага парку культуры і адпачынку. Прапанову калгаснікі адобрылі і правялі ў жыццё. Вечарам у калгасным парку шмат людзей, пераважна моладзь, заглядваюць і старыя. Спевы, смех, гармошка — весела!

**Калгас «Бязбожнік».**
**на Лёзняншчыне.**

---

# Як мы робім святочны нумар

Аршаншчына рыхтавала баявую сустрэчу ўсенароднаму святу. Прамысловасць раёна датэрмінова выканала поўгадовую праграму і звыш плана да канца паўгоддзя дала прадукцыі на мільён рублёў.

Калгасы завяршалі сеназдачу, стваралі моцную кармовую базу. Р. Святецкі сельсовет перавыканаў план развіцця жывёлагадоўлі. Калгаснікі калгаса **«Вольны труд»**, Паўзаўскага сельсовета, **пабудавалі парыкмахерскую, лазню, вадаправод, новы свіран, плануюць выкапаць сажалку для развядзення качак і гусей.**

Калгаснікі **«Чырвонай нівы»**, Панізаўскага сельсовета, у кожным калгасным двары пасадзілі дрэвы. У кожную хату ў гэтым калгасе ўведзена **радыё.** Хаты ўпрыгожаны партрэтамі правадыроў. **Калгас электрыфікаваны.** За апошні час пабудаваны тры вялікія свірны, гонтарэзка, абсталёван радыёвузел, пабудавана воданапорная вежа. Будуецца вялікая канюшня з каменным падмуркам і новы вялікі клуб.

З ростам тэхнікі ў калгасе растуць і кадры. Калгаснік **Касцюкоў** падвучыўся і стаў кваліфікаваным калгасным кавалём.

Калгаснік-ударнік Сяргей **Новікаў** стаў калгасным інспектарам-вопытнікам. Дзямід **Чарвякоў** і **Шчэрбаў Е.** вывучыліся на машыністаў уборачных машын.

Так рыхтаваўся да свята кожны калгас, кожнае прадпрыемства, горад, кожны рабочы і калгаснік раёна.

У святочным нумары раённай газеты трэба ўсё гэта падагуліць, паказаць, як далёка адышла Орша ад праклятага дарэволюцыйнага часу. Тэма складаная, а падаць яе трэба так маляўніча і радасна, як маляўнічае і радаснае наша жыццё. Іменна гэта патрабаванне прымусіла нас рыхтавацца да святочнага нумара загадзя, не за дзень і не за тыдзень, а, прыкладна, за месяц назад.

На лепшы праект нумара абвясцілі конкурс. Тры дні работнікі рэдакцыі групамі і ў паасобку абмяркоўвалі паласы, кожны матэрыял, збіралі асобныя дакументы, падбіралі людзей для фото.

На рэдакцыйнай нарадзе абмяркоўвалі прадстаўленыя планы. Пяршынства ў конкурсе ўзялі **Кавалевіч** і **Шэвераў.** Прынят быў план гэтых таварышоў.



Работнікі оршанскай раённай газеты за складаннем плана святочнага нумара

Якая ідэя святочнага нумара нашай газеты?

На першай старонцы—два невялікія, але асноўныя матэрыялы **«Беларусь Савецкая»** —жывыя факты аб культурнай і гаспадарчай магутнасці рэспублікі. Роля КП(б)Б і лепшых большэвікоў Беларусі **Гікало** і **Галадзеда** ў заваяванні рэспублікай ордэна Леніна. Асаблівы ўпор—на ажыццяўленне ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі, на росквіт нацыянальнай па форме, пролетарскай па зместу культуры. Другі матэрыял пад загалоўкам **«Заходняя Беларусь».** Тут падамо матэрыялы з бюлетэняў камісіі Акадэміі навук па вывучэнню Заходняй Беларусі і з газет, якія паказваюць збяднenne, беспрацоўе і жабрацтва рабочых і сялян Заходняй Беларусі.

На гэтай-жа старонцы змяшчаем пісьмо тав. **Будзённаму.** У гэтым пісьме ўдзельнікі грамадзянскіх баёў, якія зараз працуюць на нашых прадпрыемствах і ў калгасах, раскажуць аб сваіх справах, аб асобных баявых эпізодах, аб тым, як яны пад кіраўніцтвам сталёвай партыі і вялікага Сталіна змагаюцца за большэвіцкія калгасы, за заможнае калгаснае жыццё.

Унізе падвалам змесцім успаміны ўдзельнікаў баёў аб значэнні Оршы, як стратэгічнага пункта ў дні белапольскай акупацыі. Матэрыял падамо пад агульным загалоўкам **«Орша ў тыя дні».**

Мастацкі аформім гэту старонку як найлепш. Уверсе і ўнізе—вузкія мантажы клішэ. Першае—Чырвоная плошча ў Маскве, маўзалей, Крэмлёўская сцяна і строй танкаў. Другое—па сярэдзіне ўзыходзіць сонца. На левым баку—фон прамысловасці, з правага боку—сельская гаспадарка.

Другая паласа раскажа аб справах калгаснай вёскі і афармляецца пад агульнай шапкай **«Пераможная песня калгаскай нівы».**

Тут разгорнута паказам калгас імя тав. Кірава, людзей, выхаваных у гэтым калгасе, якія сталі сапраўднымі інжынерамі ўраджаяў. У **«Запісках брыгадзіра»** калгаса імя Леніна, Якаўлевіцкага сельсовета, раскажам, як сцягванне хутароў спрыяе культурнаму росту калгаснікаў, як ствараецца калгасны культурны цэнтр.

Артыкул **«Род Магеравых»** паказвае, як сям'я Магеравых да рэволюцыі ішла ўніз і як падняла кожнага з іх рэволюцыя. Зараз сам Пятрок Магераў з'яўляецца загадчыкам калгаснай хаты-лабараторыі калгаса «Авангард», Пугляеўскага сельсовета. У яго 7 сыноў і 6 з іх—комуністы. Нікіфар працуе інжынерам у Ленінградзе, Максім—камандзір корпуса, Ляўон працуе інжынерам у Маскве, Пятрок—дырэктар саўгаса, Данiла—танкіст, Аркадзь—чырвонаармеец.

Падвал—«**Праз гады агнявыя**» прысвячаем былому партызану, зараз старшыні калгаса «Чырвоны партызан», Кудаеўскага сельсовета, т. **Селязнёву.** Паказваем удзел тав. Селязнёва ў грамадзянскай вайне і вызваленні Беларусі ад белапалякаў, барацьбе з кулацтвам у часе арганізацыі калгаса і кіраўніцтва калгасам зараз.

Трэцюю паласу азаглавім: «**Гудкі вялікіх перамог».** Паказваем каштоўнага чалавека—начальніка механічнага цэха завода «Чырвоны барацьбіт». Пакажам, як цэх стаў бясстратным, як начальнік гэтага цэха т. **Палянок** выхоўвае кадры, яго рацыяналізатарскія прапановы.

У артыкуле «**Людзі завода**» дырэктар гваздзільнага завода «Чырвоны Октябр» т. **Сланімскі** расказвае аб выхаванні людзей, паказвае, як яны ідуць уверх, як кіраўніцтва завода і партыйная арганізацыя клапоцяцца аб кадрах.

У артыкуле «**Нараджэнне выдатніка**» пакажам, як рабочы провалачнага цэха гваздзільнага завода т. **Мядзведскі** Фядот—былы бракароб, зараз здаў на «выдатна» тэхнічны экзамен, стаў даваць выдатную якасць прадукцыі. І ва ўсіх гэтых матэрыялах выпуклім асноўнае—**ролю ленінскай партыі,** яе ЦК, ролю асабіста т. **Сталіна** ў стварэнні і развіцці БССР, у барацьбе за ўсё новыя і новыя вытворчыя, культурныя перамогі, клопаты партыі і правадыра аб жывых людзях, аб кадрах.

На гэтай-жа паласе змесцім два артыкулы аб самой Оршы. Першы—«**Мінулае і сучаснае»**, другі—«**Будучыня Оршы».** У першым артыкуле гістарычнымі дакументамі пакажам малюнак мяшчанскай саматужнай дарэволюцыйнай Оршы. У працівагу гэтаму пакажам культурную прамысловую Оршу нашых дзён. У другім артыкуле раскажам, якой Орша будзе праз 5—7 год. Тут закранем праблему вялікага Дняпра, будаўніцтва ільнокамбіната і рабочага гарадка.

Афармляем другую і трэцюю паласы так. Па баках па калонцы займуць мантажы клішэ знатных людзей сельскай гаспадаркі і прамысловасці, а ў сярэдзіне сіметрычным парадкам размяшчаем іншыя клішэ.

На чацвертай старонцы калонку ў рамках зоймуць факты і лічбы, якія паказваюць гаспадарчую магутнасць раёна і культурны рост калгаснай вёскі. З правага боку крайнюю калонку зойме замежны матэрыял, у большасці аб Заходняй Беларусі і Польшчы.

На сярэдніх пяці калонках да палові змесцім матэрыял на абаронную тэму. Возьмем асобныя месцы з даклада тав. **Тухачэўскага** і — пішам нарыс «**З парашутам з вышкі».**

Другую палову гэтых пяці калонак зойме апісанне жыцця і інтарэсаў людзей. Наверсе гэтага матэрыяла падамо мантаж-клішэ дзяцей, апавітых кветкамі.

Дапаўняць і перарабляць план прышлося тры разы. І толькі тады, калі акрэслілася ідэя кожнай старонкі, змест і напрамак кожнага матэрыялу, мы прыступілі да збору матэрыялаў і падрыхтоўкі клішэ.

Святочны нумар друкуем у дзве фарбы—сіняй і чырвонай. Фармат нумара такі, як фармат «**Звязды».** Клішэ ўдарнікаў і загалоўкаў загатовілі за 10 дзён да выпуску нумара. Тэмы размеркавалі сярод работнікаў рэдакцыі, асобныя матэрыялы заказалі раённым работнікам. Кожнаму аўтару гэтага нумара далі ўстаноўку і напрамак, дзе і што ўзяць.

Так мы рыхтуем нумар газеты, прысвечаны падвойнаму святу працоўных нашай рэспублікі—15-годдзю вызвалення Беларусі ад белапалякаў і ўручэнню БССР ордэна Леніна.

**В. КАВАЛЕВІЧ, А. ШЭВЕРАЎ,**
**Ц. ЖАЛЕЗНІКАЎ, Н. ВНУЧАЎ.**

**Орша, БССР**
**раённая газета.**

# ЗМЕСТ

Перадавы. Гістарычная дата . . . 3

**А. Цыпіна.** — Апавяданні пра знойдзенае шчасце. . . 9

**А. Гарт.** — Палкі трыбун партызан комуністаў . . . . 13

**С. Вольпаў.** — У глыбокім падполлі . . . . . . 17

**Л. Палеес.** — Падпольная друкарня . . . . . . . 19

**В. Жукаў** — «Красноармейская Роста» на фронце барацьбы з белапалякамі. . 21

**А. Матусевіч.** — Большэвіцкі друк тых дзён . . . . . 25

**Міх. Беккер.** — Дзем'ян Бедны аб белапаляках . . . 28

Расказ старога метранпажа. . 32

**М. Сакалоўскі.** — Жывая памяць аб белапольскай акупацыі . . . . . . . 34

**Дубовіч І.** — Мяне натхняла большэвіцкая партыя і яе друк . . . . . . . . 35

**М. А.** — Селькор—чырвонасцяжац Алесь Радзюк . . . 35

**В. Козляк.** — На новы фронт. 37

**Кузьма Фралоў.** — Памятаем аб тым, што ваяваць яшчэ прыдзецца. . . . . . . 38

**Д. Снежко.** — Совецкая Беларусь у замежным рабочым друку . . . . . . . 39

**В. Кавалевіч.** — Прадаўжаем літаратурны паход . . . . 41

Каштоўнае пачынанне. . . . 43

**З. Зайцаў.** — На варце багатага ўраджаю . . . . . . 44

**С. Шаірка.** Мяняецца вытляд калгасных хат . . . . 46

**В. Кавалевіч, А. Шэвераў, Ц. Жалезнікаў, Н. Внукаў.** — Як мы робім святочны нумар . . . . . . . . 46

Менск, друкарня „Звязды". Здана ў набор 2-V11—35 г. Падпісана да друку 8-V11—35 г.

Уп. Галоўліт. № К—28,099. Тыраж 1.200 экз. 3 друк. арк. У арк. 75.000 экз.

